ПРОЛЕТАР

# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б





## ЛІПЕНЬСКІ АБ'ЯДНАНЫ ПЛЕНУМ ЦК і ЦКК КП(б)Б

№ 1

ЛІПЕНЬ 1932
ПАРТМАССЭКТАР ДВБ

## З Ь М Е С Т



Заказ № 1668. 10.000 экз. (4 арк.) Уп. Галоўлітбелу №а 668.

Друкарня імя Сталіна.




ДЛЯ ЗАЎВАГ

## Плян дакладу

Значэньне аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б

1. Агульнае ў пытаньнях, якія абмяркоўваліся пленумам, барацьба за больш паскораныя тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва.

2. Пленум прайшоў пад знакам бальшавіцкай самакрытыкі, конкрэтнасьці і опэратыўнасьці.

3. Пленум прайшоў пад знакам згуртаваньня ЦК, ЦКК і ўсёй беларускай парторганізацыі вакол новага кіраўніцтва на чале з тав. Гікало.

4. Значэньне рашэньняў пленуму ў сучасных конкрэтных міжнародных умовах.

Вынікі сяўбы і задачы ўборачнай.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

1. Вынікі сяўбы па СССР — яскравы доказ таго, што сельская гаспадарка ў СССР канчаткова замацавалася на соцыялістычным шляху.

2. Буйнейшыя посьпехі 3-й бальшавіцкай вясны па БССР.

3. Недахопы сяўбы—прарывы ў першы пэрыод сяўбы, адсутнасьць неабходнай конкрэтнасьці і апэратыўнасьці як у рабоце цэнтральных савецкіх і інш. організацый, так і ў рабоце большасьці раёнаў; недастаткова разгорнутая барацьба па радзе раёнаў са скажэньнямі лініі партыі ў колгасным руху, слабае аўладаньне тэхнікай сельгасмашын і г. д.

4. Цэнтральная задача ўборачнай—барацьба са стратамі. Рашаючае значэньне правільнай організацыі працы, сумяшчэньне

коннай і машыннай цягі, конкрэтнага опэратыўнага кіраўніцтва колгасамі і брыгадамі, скіртаваньня да абмалоту, сваячасовай выдачы натуральных авансаў.

5. Бязьлітасная барацьба з найменшымі скажэньнямі лініі партыі — як з патураньнем у адносінах да разлагаючай дзейнасьці клясавага ворага, так і з парушэньнем рэволюцыйнай законнасьці „левакамі“.

6. Разгортваньне колгаснага гандлю—важнейшая ўмова посьпехаў уборачнай.

Аб практычных мерапрыемствах па разгортваньні савецкага гандлю і вырабу прадметаў шырспажыву

1. Рашэньне ЦК і СНК збожжа і жывёлазагатовак—вынік перамог социялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, програма далейшага социялістычнага наступленьня.

2. Скажэньні дырэктыў партыі

ДЛЯ ЗАЎВАГ

таваравбмен, рэгуляваньне цэн (і г. д.).

3. Асноўнае зьвяно савецкага гандлю—прасоўваньне тавараў у вёску, разгортваньне вырабу прадметаў шырспажыву.

4. Сельпо—асноўнае організацыйнае зьвяно ў справе прасоўваньня тавараў на вёску і разгортваньня гандлю ў весцы.

5. Шырспажыў (заводзкія сустрэчныя пляны, утыльцэхі, прыцягваньне шырокіх мас да справы разгортваньня вырабу прадметаў шырспажыву, пытаньні аб асортымэнце і г. д.).

6. Роля прамкоопэрацыі ў разгортваньні вырабу прадметаў шырспажыву.

7. За савецкія культурныя рынкі.

8. Савецкі гандаль і барацьба за ўласную харчовую базу на прадпрыемствах.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Бязьлітасная барацьба з перакупшчыкам і спэкулянтам—адна з важнейшых задач у справе савецкага гандлю.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Партыйна-масавая работа

1. Разгорнутая партмасавая работа—асноўная прадпасылка пасьпяховага правядзеньня гаспадарча-політычных кампаній.

2. Задача партмасавай работы—ахапіць політычным упłывам кожнага рабочага, кожнага колгасьніка і працоўнага аднаасобніка.

3. Галоўныя недахопы партмасавай работы (дрэнная расстаноўка партыйных сіл, дэкларацыйнасьць кіраўніцтва, адсутнасьць конкрэтнасьці, факты формальнай організацыйнай перабудовы, зрывы ў партвыхаваўчай рабоце, адміністраваньне ў масавай рабоце і г. д.).

4. Тры ўзаемна зьвязаныя зьвяны партработы — організацыйна-партыйная, партыйна-выхаваўчая і партыйна-масавая работа. Чоткая расстаноўка партыйных сіл, дзеяздольныя партгрупы, вучоба комуністаў, асабліва кандыдатаў і г. д.—важнейшыя ўмовы масавай работы.

5. Асноўныя мэтоды масавай работы (штодзеннае растлумачэньне рашэньняў партыі групавымі агітатарамі, політдні на прадпрыемствах і ў колгасах, гутаркі ў агульных памяшканьнях, дыфэрэнцываны падыход да паасобных груп рабочых, колгасьнікаў і г. д.).

ДЛЯ ЗАЎВАГ

## Аб выніках веснавой сяўбы і задачах уборачнай кампаніі

Правільнае кіраўніцтва партыі на чале з ленінскім ЦК УсеКП(б) і правадыром партыі і сусьветнага пролетарыяту т. Сталіным забясьпечыла буйнейшыя посьпехі ў выкананьні пляну 4-га заключнага году пяцігодкі. Посьпехі ў выкананьні апошняга году пяцігодкі цесна зьвязаны з вырашэньнем сусьветна-гістарычнай задачы, пастаўленай XVII Усесаюзнай партконфэрэнцыяй—пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва ў другой пяцігодцы.

Посьпехі па выкананьні першай пяцігодкі дасягнуты на аснове няўхільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі, у барацьбе з клясавым ворагам і яго агентурай у радох партыі, правымі

ДЛЯ ЗАЎВАГ

і „левымі“ опортуністамі, у барацьбе з прымірэнчымі адносінамі да скажэньняў і ўхілаў ад лініі партыі.

**Асноўныя посьпехі веснавой сяўбы**

Веснавая пасеўная кампанія мела выключнае гаспадарча-палітычнае значэньне ў выкананьні пляну 4-га заключнага году пяцігодкі. Посьпехі веснавой сяўбы зьяўляюцца адначасова посьпехамі па выкананьні першай пяцігодкі і непарыўна з ёю зьвязаны. Дасягнуўшы вялікіх посьпехаў ў правядзеньні веснавой пасеўнай кампаніі, наша партыя тым самым ствapae лепшыя магчымасьці для выкананьня задач другой пяцігодкі.

„Поўная перамога ў сельскай гаспадарцы колгасаў і саўгасаў, ахапіўшых у выніку пасеўнай кампаніі бягучага году ча-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

тыры пятых усёй яравой засеўнай плошчы сьведчыць аб тым, што СССР канчаткова замацаваўся на новым соцыялістычным шляху. Буржуазная тэорыя звароту СССР да капіталізму тым самым канчаткова разьбіта і разьвеяна дашчэнту“ (з пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 5 ліпеня 1932 г. „Аб уборачнай кампаніі 1932 г.“).

Вось асноўны політычны вынік веснавой сяўбы 1932 г. У веснавую пасеўную кампанію г./г. мы маем бліскучы паказальнік правільнасьці генэральнай лініі партыі. Такая буйная перамога веснавой сяўбы стала магчымай на аснове таго, што:

а) у авангардзе сяўбы ішлі саўгасы, якія засеялі 10,8 млн. *га* супроць 3 млн. *га* ў 1930 г.;

б) значна пашырылі сваю засеўную плошчу колгасы, паказаўшы ўзоры новых соцыялістычных адносін да працы і высокай продукцыйнасьці колектыўнай працы (прырост засеўнай плошчы колгасаў складае каля 10 млн. *га* супроць мінулага году);

в) МТС—асноўны вагар тэхнічнага пераўзброеньня і соцыялістычнага перавыхаваньня сялянства—засеялі 53 проц. засеўнай плошчы.

У выніку правядзеньня трэцяй бальшавіцкай сяўбы мы маем далейшае організацыйнае і палітычнае ўмацаваньне колгасаў.

2. Посьпехі веснавой сяўбы ў БССР

БССР, зьяўляючыся неадʻемнай часткай Савецкага саюзу, таксама дасягнула буйнейшых посьпехаў у правядзеньні весна-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

вой сяўбы, а гэта значыць і ў далейшай соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Па БССР мы маем таксама значныя перамогі і посьпехі, дасягнутыя ў выніку веснавой сяўбы, якія былі грунтоўна падагулены ў дакладзе т. Шаранговіча на пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б:

а) пасеўны плян 1931 г. выканан у разьмеры 2326 тыс. *га*, у 1932 г.—2543 тыс. *га*. Такім чынам павялічэньне складае 217 тыс. *га*, або 9,3 проц.;

б) па бульбе павялічэньне супроць мінулага году на 62,5 т. *га*, па ільне—30,2 тыс. *га*. Гэта сьведчыць аб далейшым росьце таварнасьці сельскай гаспадаркі Беларусі і новых посьпехах у галіне спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі па лініі разьвіцьця

тэхнічных культур і падвядзеньня кармавой базы для жывёлагадоўлі;

в) колгасы засеялі 1371 тыс. *га* супроць фактычнага засеву мінулага году 1056 тыс. *га*. Аб'ядналныя МТС колгасы засеялі 486 тыс. *га* супроць 212 тыс. *га*, саўгасы — 169 тыс *га* супроць 103 тыс. *га*.

Засеўная плошча соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі складае 60,6 проц. агульнага засеву яравога кліну;

г) колгасы паказалі далейшыя перавагі колектыўнай гаспадаркі над аднаасобнай (на каня ў колгасе прыпадае 4,68 *га* засеву супроць 2,71 *га* ў аднаасобным сэктары, на гаспадарку ў колгасе — 4,06 *га* супроць 2,26 аднаасобніка);



ДЛЯ ЗАЎВАГ

д) МТС—у колькасьці 57 адзінак—поўнасьцю выканалі свой пасеўны плян, засеяўшы 41 проц. колгаснай плошчы;

е) бедпякі і серадпякі—аднаасобнікі, якія займаюць па сваёй адносная вазе каля палавіны засеўнай плошчы, у гэтым годзе сеялі больш арганізавана і дружна. Гэта зьявілася вынікам умацаваньня масава-палітычнай работы сярод аднаасобнікаў.

Асабліва буйныя посьпехі дасягнуты ў галіне машынізацыі сельскай гаспадаркі БССР, краіны адсталай і прыгнечанай у мінулым. Павялічэньне машынізацыі зьвілася аднэй з асноўных прычын посьпехаў веснавай сяўбы.

Паводле даных Дзяржпляну у БССР у 1928 г. сельскагаспадарчых машын і інвэнтару прыпадала на 1 *га* засеўнай плошчы на 5,6 руб., у 1929 г.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

гэтая лічба паднялася да 9 р., у 1930 г. да 10,3 руб., у 1931 г. да 14,6 руб., а ў 1932 г. гэта лічба, пры поўнай рэалізацыі намечанага пляну забесьпячэньня сельскай гаспадаркі машынамі, дойдзе да 24 руб. на 1 *га* засеўнай плошчы.

Паступленьне машын у сельскую гаспадарку за апошні пэрыод характарызуецца наступнымі лічбамі:

1929 г.—на 5400 тыс. руб.
1930 „ — „ 7726 „ „
1931 „ — „ 17072 „ „

У 1930 г. увесь трактарны парк складаў 8 тыс. НР (конскіх сіл), у 1931 г. гэтая лічба паднялася да 26 тыс. НР, плянам на 1932 г. намечана гэту лічбу падняць да 70 тыс. НР. Да канца 1932 г. агульная колькасьць МТС будзе даведзена да 100.

Дзякуючы якім прычынам мы дабіліся такіх вялікіх посьпехаў у правядзеньні веснавой сяўбы гэтага году? Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б дае на гэтае пытаньне наступны вычарпальны адказ:

„КП(б)Б дабілася гэтых посьпехаў у сяўбе пад кіраўніцтвам і пры дапамозе ЦК УсеКП(б), на аснове правільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы з клясавым ворагам і яго агентурай—правымі і левымі опортуністамі.

Посьпехі сяўбы забясьпечыла па-бальшавіцку праведзеная барацьба новага кіраўніцтва ЦК КП(б)Б за рашучую перабудову работы ўсёй парторгані-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

зацы і па сяўбе на аснове конкрэтнасьці, опэратыўнасьці, павышэньня адказнасьці і бальшавіцкіх тэмпаў пасеўнай кампаніі. Мобілізаваўшы і сконцэнтраваўшы ў раёнах лепшыя сілы цэнтральнага актыву, вядучы рашучую барацьбу з опортуністычнымі спробамі тармазіць сяўбу спасыланьнямі на „об'ектыўныя прычыны“ (кліматычныя ўмовы, сьвяты і т. д.), рашуча перамагаючы і выпраўляючы перагібы, выпадкі адміністраваньня і лявацкую недаацэнку аднаасобніка, новае кіраўніцтва ЦК КП(б)Б ажыцьцявіла ў пасеўнай кампаніі сапраўды опэратыўную дапамогу кожнаму раёну, паварачваючы раёны тварам да опэратыўнай работы ў сваіх сельсаветах, колгасах, МТС і нават брыгадах“.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Недахопы веснавой сяўбы

У ходзе сяўбы найбольш яскрава была ўскрыта значная колькасьць недахопаў і прарываў, пры ухіленьні якіх мы маглі-б мець больш буйныя посьпехі і бязумоўна дасягнулі-б поўнага выкананьня пляну сяўбы. Адзначым найбольш важныя з іх.

1. Яшчэ ня было дасягнута чоткага опэратыўнага кіраўніцтва сяўбой. Рад опэратыўных пытаньняў (зямлянадзяленьне, перакідка насеньня, трактароў і інш.) прыходзілася вырашаць у разгары палявых работ і тым самым адрываць людзкую і цягавую сілу. Між тым гэтыя пытаньні павінны былі быць вырашаны значна раней.

Веснавая пасеўная кампанія асабліва ярка выявіла яшчэ слабое веданьне з боку цэнтраль-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ных устаноў экономікі і асабліваcьцяй раёнаў і з боку раённых устаноў экономікі і асаблівасьцяй паасобных сельсаветаў, колгасаў і саўгасаў. У кіраўніцтве мы маем яшчэ шмат ураўнальнага падыходу, што зусім недапушчальна ў новых умовах работы.

Зусім дрэнна пастаўлена пляваньне і ўлік як у цэнтры, так і на мясцох.

2. Зусім слаба, у параўнаньні з узросшай актыўнасьцю і запатрабаваньнем мас, пастаўлена масава-палітычная работа. У радзе раёнаў і значнай часткі сельсаветаў і ячэек яна падмяняецца адміністраваньнем і камандаваньнем. Мела месца значная колькасьць фактаў расхлябанасьці і недысцыплінаванасьці.

3. Асабліва буйны прарыў— нездавальняюча праведзены мерапрыемствы як

ДЛЯ ЗАЎВАГ

у якасных, так і ў кольkасных адносінах па павышэньні ўраджайнасьці

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ўкараненьні агротэхнікі. Якасьць апрацоўкі глебы прадаўжае аставацца нездавальняючай. Ня ўсюды правялі радавы пасеў, сартыроўку насеньня, ня поўнасьцю выкарысталі мінэральныя ўгнаеньні.

4. Сяўба выкрыла рад буйнейшых недахопаў у рабоце МТС. Слабасьць кіраўніцтва вытворчымі вучасткамі, якія ў рабоце МТС яшчэ не адыгрываюць асноўнай ролі ў справе гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. У рабоце МТС слаба разгорнута барацьба за ажыцьцяўленьне шасьці указаньняў т. Сталіна.

Якасьць рамонту машын нездавальняючая, значная колькасьць паломак і паўторнага рамонту, перарасход гаручага,





нізкая продукцыйнасьць работы трактара і трактарыста.

5. У большасьці раёнаў і колгасаў мае месца недаацэнка ролі конскай цягавай сілы, адсюль дрэнны догляд за коньмі. У выніку гэтага недахоп цягавай сілы і яе зношанасьць. Гэта тармазіла выкананьне пляну сяўбы.

6. Асабліва буйныя недахопы выкрыты ў рабоце саўгасаў усіх сыстэм. Прычыны недахопаў: слабасьць кіраўніцтва з боку трэстаў, безгаспадарчасьць, дрэнная арганізацыя працы, недастатковая вытворча-тэхнічная база.

Шэсьць указаньняў т. Сталіна ня сталі яшчэ ў цэнтры ўвагі работы саўгасаў. З гэтых прычын саўгасы БССР адсталі ў правядзеньні веснавой сяўбы.

7. Нельга яшчэ лічыць дастатковымі посьпехі ў арганіза-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

цыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў. Асноўныя пытаньні арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў не стаялі ў цэнтры ўвагі раду партыйных арганізацый. Ня ўсюды праведзен пераход працы на зьдзельшчыну, шмат памылак у арганізацыі брыгад.

Гэта акрэсьліла адставаньне колгасаў у правядзеньні сева па раду раёнаў.

Наяўнасьць гэтых прычын вызначыла адставаньне ў правядзеньні веснавой сяўбы па радзе раёнаў, да ліку якіх трэба аднесьці такія раёны, як Нараўлянскі, Камарынскі, Смалявіцкі, Веткаўскі, Кармянскі, Прапойскі, Чашніцкі і Церахоўскі. Партыйна-савецкае кіраўніцтва гэтых раёнаў не мобілізавала пабальшавіцку масы колгасьнікаў, беднякоў і серадпякоў—адна-

асобнікаў на пасьпяховае выкананьне сяўбы. У выніку гэтага плян веснавой сяўбы па гэтых раёнах быў значна недавыканан.

Перамогі, дасягнутыя ў веснавой сяўбе—замацаваць бальшавіцкім правядзеньнем уборачнай кампаніі

Перамогі, дасягнутыя ў правядзеньні веснавой сяўбы, ускладаюць на партыйныя, савецкія і зямельна-колгасныя організацыі новыя сур'ёзныя задачы і ставяць новыя патрабаваньні. Цяпер, калі чатыры пятых сельскай гаспадаркі ахоплены соцыялістычным сэктарам, асабліва востра ўстае задача навучыцца конкрэтна, з дасканальным веданьнем справы, па-дзелавому кіраваць гэтай соцыялістычнай гаспадаркай. Цяпер, як ніколі, трэба падвысіць на-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

шу ўвагу да пытаньняў сельскай гаспадаркі. Нам трэба ведаць раёны і колгасы, экономіку і асаблівасьці кожнага з іх. На аснове гэтага дасканальнага веданьня і вывучэньня экономікі і асаблівасьцяй конкрэтна і опэратыўна кіраваць раёнамі і колгасамі. Гэта зьяўляецца адн эй з асноўных умоў пасьпяховага правядзеньня ўборачнай кампаніі.

Пастанова пленуму ЦК і ЦКК па пытаньнях уборачнай кампаніі, пастанова СНК СССР і ЦК УсеКП(б) па гэтым-жа пытаньні зьяўляюцца баявой програмай для партыйных організацый, выкананьне якой (програмы) павінна забясьпечыць нам яшчэ большыя посьпехі ў перабудове сельскай гаспадаркі на новых социялістычных асновах.

Таму мы павінны забясьпе-

чыць выкананьне наступнай дырэктывы ЦК і СНК:

„Савет народных комісараў і Цэнтральны комітэт партыі прапануе ўсім савецкім і партыйным організацыям яшчэ ў большай меры, чым гэта было ў часе пасеўнай кампаніі, згуртаваць свае сілы на правядзеньні ўборачных работ, як вызначаючых рэзультаты ўсяго сельскагаспадарчага году, і ў сувязі з гэтым на справе ўзмоцніць увагу да пытаньняў сельскай гаспадаркі“.

Пленум ЦК і ЦКК, а таксама пастанова ЦК УсеКП(б) і СНК СССР вызначаюць задачы, за выкананьне якіх неабходна рашуча змагацца ў правядзеньні уборачнай кампаніі. Гэтыя задачы былі вызначаны з усёй выразнасьцю таксама ў дакладзе тав. Ша-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ранговіча—у выступленьні тав. Гікало і іншых таварышоў на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б. Праводзячы ўборку, мы павінны выходзіць з таго, што:

„У аснову ўсёй работы па ўборцы павінна быць пастаўлена барацьба са стратамі. Рашаючымі захадамі ў барацьбе са стратамі зьяўляецца правядзеньне ўборкі ў магчыма найкарацейшыя тэрміны на аснове ўсямернага скарыстаньня ня толькі складаных, але і прасьцейшых машын і прылад, пры неадкладным і абавязковым правядзеньні ва ўсіх мясцох скіртаваньня збожжа і яго найбыстрэйшага абмалоту. Адначасова неабходна прыняць належныя меры, каб ахаваць ураджай ад раскра-

даньня, правесьці старанны абмалот, устанавіць найстражэйшы ўлік ураджаю, арганізаваць зграбаньне каласоў, прымяніць зерняўлоўнікі і да т. п. (З пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 5 ліпеня 1932 г.).

Пленум ЦК і ЦКК абавязаў:

„Убраць натуральных сенажацяй на плошчы 1850 тыс. *га*, з іх у саўгасах 158 тыс. *га*, у колгасах—927 тыс. *га* і ў аднасібных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак—765 тыс. *га*.

Закласьці сілосу 1200 тыс. *т*, з іх у саўгасах 200 тыс. *т*, у колгасах—900 тыс. *т*, у аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках—100 тыс. *т*.

Правесьці праполку ільну ня менш аднаго разу, акучваньне і праполку бульбы,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

кармавых кораньплодаў і гародаў—два разы.

Правесьці поўную ачыстку насеньня праз трыер: у саўгасах і колгасах ня менш 75 проц. і ў аднаасобным сэктары ня менш 50 проц.

Засеяць азімы клін на плошчы 1300 тыс. *га.*

Зазябліць 1500 тыс. *га.*

Забясьпечыць захаваньне насеньнікаў траў для арганізацыі кармавой базы ў колгасах на плошчы ня менш 174 тыс. *га.*

Праводзячы уборачную кампанію, неабходна асабліва концэнтраваць увагу па ўборцы тэхнічных культур, бульбы і іншых корняплодаў.

**Забясьпечыць ўмацаваньне колгасаў**

*Уборачная кампанія* можа быць пасьпяхова праведзена пры ўмове выкананьня раду задач па

далейшым арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў.

Не закранаючы ўсіх задач, намечаных пленумам, неабходна падкрэсьліць важнейшыя:

**Першае.** Арганізаваць працу ў колгасах неабходна так, каб яшчэ ў большай меры падвысіць зацікаўленасьць як кожнай брыгады, так і кожнага колгасьніка ў рэзультатах сваёй работы. Вось чаму нам трэба забясьпечыць правядзеньне ва ўсіх мясцох і ва ўсіх колгасах брыгадных, групавых мэтадаў зьдзельшчыны з тым, каб, у залежнасьці ад якасьці работы брыгады (якасьць ўборкі, абмалоту, разьмеры страт і інш.), ацэнка кошту працадня (або колькасьць выпрацаваных працадзён) для брыгады і брыгадзіра павышалася або паніжалася ў граніцах ад 10 да 20 проц.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Праводзячы ўсе гэтыя мерапрыемствы, зьвязаныя з лепшым наладжваньнем працы ў колгасах і з правядзеньнем уборкі, мы павінны асноўную ўвагу сконцэнтраваць на ўмацаваньні работы брыгады як асноўнага зьвяна колгаснай вытворчасьці. Пленум намеціў рад конкрэтных мерапрыемстваў па лініі ўмацаваньня складу брыгадзіраў, павышэньня іх кваліфікацыі і інш.

**Другое.** Правесьці правільную выдачу натуральнай і грашовай часткі. Пры правядзеньні гэтай работы неабходна кіравацца наступным указаньнем СНК СССР і ЦК УсеКП(б):

„Выдача натуральнай і грашовай часткі даходаў у колгасах павінна рабіцца ў дакладнасьці і адпаведнасьці з колькасьцю выпрацаваных

кожным колгасьнікам праца-дзён. У дадатак пры разьмеркаваньні фуражу трэба ўлічыць наяўнасьць жывёлы ў колгасьнікаў з тым, каб колгасьнікі, якія не агрымалі фуражу або атрымалі яго менш, замест гэтага атрымлівалі іншыя віды натуральнай продукцыі, ня выходзячы, аднак, за межы ўстаноўленага ў даным колгасе разьмеру натуральных выдач за працадзень.

У сувязі з гэтым трэба скасаваць меўшае месца ў практыцы мінулага году абмежаваньне разьмераў выдачы натуральнай часткі даходу колгасьнікам, якія працуюць у сельскагаспадарчай вытворчасьці і выпрацавалі больш, чым ім назначана працадзён—для таго, каб такім чынам забясьпечыць

ДЛЯ ЗАЎВАГ

лепшаму колгасьніку большы разьмер як натуральнай, так і грашовай часткі даходу".



У пастанове СНК і ЦК УсеКП(б) і аб'яднанага пленума ўказваецца на неабходнасьць утварыць ужо ў часе ходу абмалоту выдачу колгасьнікам авансаў у лік натуральнай часткі даходаў у разьмеры 10—18 проц. фактычна абмалочанага хлеба, праводзячы разьмеркаваньне выключна па працаднёх, на неабходнасьць устараненьня затрымкі разьмеркаваньня даходаў і рад іншых мерапрыемстваў, накіраваных на падвышэньне зацікаўленасьці кожнага колгасьніка ў рэзультатах сваёй работы.

Апроч таго трэба лічыць зусім недапушчальнай практыку ўраўнальнага падыходу да вызна-

чэньня разьмераў натуральных выдач у колгасах на працадзень бяз уліку якасьці і рэзультатаў работы—г. зн. такую практыку, калі розныя колгасы выдавалі аднолькавую колькасьць збожжа на працадзень.

„Пры правядзеньні ўборкі ўраджаю, правядзеньні збожжазагатовак і разьмеркаваньні даходаў у колгасе неабходна забясьпечыць такое становішча, каб колгасы, якія лепш пасеялі, якія лепш убралі і акуратна выканалі ўстаноўлены для іх плян дзяржаўных загатовак, мелі ў сваім распараджэньні для ўласных патрэбнасьцяй большую колькасьць збожжа“ (З пастановы ЦК і СНК).

**Трэцяе.** Нам неабходна асабліва сур'ёзную ўвагу зьвярнуць



ДЛЯ ЗАЎВАГ

на выкананьне дырэктывы пленуму ЦК і ЦКК аб недапушчэньні перагібаў і адміністраваньня ў колгасах пры правядзеньні чысткі. Чыстку колгасаў ад кулацкіх элемэнтаў мы павінны праводзіць рашуча і пасьлядоўна. Аднак у радзе раёнаў маюць месца выключэньні колгасьнікаў за нязначныя ўчынкі або выключэньні без якога-б там ні было ўдзелу колгасьнікаў (без зацьвярджаньня на сходах колгасьнікаў, або нават без праўленьня колгасу).

Пленум ухваліў дырэктывы ЦК аб забароне выключаць колгасьнікаў без дазволу агульных сходаў і зацьверджаньня пастаноў райколгассаюзамі. Пленум абавязаў парторганізацыі і Колгасцэнтр утварыць суцэльную праверку выключаных беднякоў і серадпякоў, аднавіць усіх няправільна выключаных.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Мы маем шматлікія факты парушэньня рэволюцыйнай законнасьці ў адносінах колгасаў і колгасьнікаў. Таму пленум абавязаў органы РСІ, прокуратуры, райкомы і райвыканкомы забясьпечыць няўхільнае ажыцьцяўленьне пастаноў партыі і ўраду аб рэволюцыйнай законнасьці. Пленум асабліва падкрэсьліў неабходнасьць барацьбы з парушэньнем выбарнасьці ў колгасах, з адвольнымі распараджэньнямі маемасьцю колгасаў, іх зямлёй, грашыма, з камандваньнем у адносінах колгасаў.

**Чацвертае.** Выкананьне ўсіх вялізарных задач, якія стаяць перад колгасамі ў галіне правядзеньня ўборачнай кампаніі, зьяўляецца нямысьлімым без умацаваньня і далейшага шырокага разгортваньня работы з колгасным актывам, без умацаваньня колгаснай

сыстэмы вытрыманымі, добра падрыхтаванымі і здольнымі кадрамі.

Таму нам неабходна абавязкова выканаць наступныя важнейшыя мерапрыемствы, намечаныя пленумам:

а) правядзеньне раённых і міжраённых курсаў старшынь колгасаў і брыгадзіраў, а таксама сэмінараў (не радзей чым адзін раз у месяц) з кіруючым складам колгасаў;

б) стварэньне ў раёне, дзе ёсьць звыш 100 колгасаў, спэцыяльных інструктарскіх пунктаў райколгассаюзу ў складзе некалькіх інструктараў і агрономаў. Гэтыя групы не павінны мець ніякіх адміністрацыйных правоў, іх задача выключна дапамагаць колгасам;

в) падбор ня менш 150 адказных работнікаў для ўмаца-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ваньня колгаснай сыстэмы. Рашучая перабудова работы колгасных органаў, рашучая ліквідацыя папяровага кіраўніцтва і ажыцьцяўленьне кіраўніцтва сапраўды конкрэтнага, опэратыўнага.

**Падрыхтаваць машынную базу і ўмацаваць работу МТС**

Машына-трактарныя станцыі БССР, пры наяўнасьці вялікіх недахопаў у пастаноўцы кіраўніцтва імі, пасьпяхова закончылі веснавую сяўбу. Нам неабходна організаваць справу так, каб МТС таксама пасьпяхова з найменшымі стратамі правялі ўборку ўраджаю. Вось чаму

„Пленум ЦК указвае ўсім організацыям на неабходнасьць рашучага паляпшэньня работы МТС і ўзмацненьня іх ролі як важнейшага вагара ў організацыйна-гаспадарчым ума-

ДЛЯ ЗАЎВАГ



ДЛЯ ЗАЎВАГ

цаваньні колгасаў і далейшай сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Асаблівая ўвага павінна быць сконцэнтравана на ўмацаваньні вытворчых вучасткаў МТС, на правільнай арганізацыі трактарных брыгад і правільнай арганізацыі трактарнай і цягавай сілы".

Мясцовыя партыйныя і савецкія органы павінны, ня ўмешваючыся ў опэратыўную дзейнасьць кіруючых працаўнікоў МТС (дырэктары, загадчыкі вытворчых вучасткаў), аказваць ім усямерную падтрымку і дапамогу. Гэта ў значнай меры будзе прадрашаць пасьпяховае правядзеньне ўборкі МТС. Мясцовыя партыйныя і савецкія арганізацыі нароўні з дырэктарамі МТС нясуць адказнасьць за правя-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

дзеньне МТС уборачнай кампаніі.

Рамонт машын, выраб запасных частак да с.-г. машын і трактараў, мобілізацыя на гэту справу ўсіх мясцовых рэсурсаў зьяўляецца важнейшай задачай усіх партыйна-савецкіх організацый.

Неабходна правесьці рэалізацыю наяўных на складах сельскагаспадарчага снабжэньня машын і завоз прадугледжаных плянам з тым, каб усе машыны да пэрыоду ўборкі і асеньняй сяўбы былі ў саўгасах, МТС і колгасах.

Выключна важнае значаньне для пасьпяховага правядзеньня ўборачнай кампаніі мае падрыхтоўка кадраў. Лепшае асваеньне машын, падвышэньне эфэктыўнасьці ў іх рабоце—з усёй сілай высоўвае пытаньне аб падрыхтоўцы кадраў і падвышэньні

ДЛЯ ЗАЎВАГ

кваліфікацыі існуючых кадраў. Пленум абавязаў партыйныя організацыі, наркомзем, колгасную і саўгасную сыстэмы поўнасьцю выканаць плян падрыхтоўкі кадраў.

Пленум абавязаў правесьці тэхнічны нагляд за скарыстаньнем машын па лініі саўгастрэстаў, Трактарацэнтру і тэхнічнай консультацыі з боку органаў сельгасснабжэньня як у цэнтры, так і на мясцох, забясьпечыць ва ўсіх выпадках належную якасьць і правядзеньне заўчаснага рамонту трактароў. с.-г. машын і інвэнтару. ЦК і СНК пастанавілі:

„У мэтах узмацненьня тэхнічнага пераўзбраеньня саўгасаў і колгасаў у цяперашнюю ўборачную кампанію зараз-жа адпусьціць для саўгасаў і колгасаў 16 190 трактараў, 670 шт.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

аўтомобіляў, на 170 млн. руб. уборачных машын (у тым ліку 8.500 комбайнаў), на суму 40 млн. руб. запасных частак да трактараў, 12 тыс. *т* сартавога мэталю для рамонту трактараў і машын і 12 тыс. *т* шыннага жалеза.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Такім чынам мы маем далейшае ўмацаваньне машыннай базы сельскай гаспадаркі. Аднак неабходна цьвёрда памятаць, што нават пры ўсё больш узрастаючай ролі машыннай тэхнікі конская цягавая сіла пры правядзеньні праполкі, уборкі, зяблевага ворыва і асеньняй сяўбы будзе пакуль што адыгрываць р а ш а ю ч а е значэньне.

На захаваньне конскай цягавай сілы, на палепшаньне догляду за ёю і рашучую ліквідацыю барбарскіх адносін да каня, на

лепшае скарыстаньне конскай цягавай сілы мы павінны зьвярнуць выключную ўвагу. Гэта ў значнай меры будзе вырашаць посьпех уборкі і рэшты асеньніх с.-г. работ.

**Значна больш дапамогі саўгасам**

У правядзеньні весеннавой сяўбы саўгасы БССР адсталі. Ні ў якім разе мы ня можам дапускаць адставаньня саугасаў у правядзеньні ўборкі ўраджаю. Увага партыйных і савецкіх арганізацый саўгасам павінна быць павялічана ў некалькі разоў.

Партыйныя і савецкія арганізацыі павінны забясьпечыць сапраўднае ажыцьцяўленьне шасьці ўказаньняў т. Сталіна ў рабоце саўгасаў і правесьці наступныя мерапрыемствы:

а) заключыць дагаворы паміж саўгасамі і колгасамі аб аказаньні ўзаемадапамогі машынамі

і рабочай сілай пры правядзеньні ўборачнай і праполачнай кампаній;

б) увесьці на ўсіх работах у саўгасах простую неабмежаваную зьдзельшчыну, павысіць працдысцыпліну, у прыватнасьці ўжо зараз-жа арганізаваць брыгады, замацаваць за імі вучасткі зямлі, якія падлягаюць уборцы і апрацоўцы;

в) у мэтах прыцягненьня да с.-г. работы ў пэрыод праполачнай і ўборачнай кампаній членаў сем'яў рабочых і служачых арганізаваць і наладзіць работу сталовак, дзіцячых ясьляў, пляцовак, дастаўку стравы на поле і разгарнуць шырокую культурнамасавую работу ў брыгадах і атрадах.

Такія мерапрыемствы, як поўная ліквідацыя абязьлічкі ў ска-



## ДЛЯ ЗАЎВАГ

рыстаньні с.-г. машын, цягавай сілы, павышэньні продукцыйнасьці працы, правільнай расстаноўцы рабочай сілы ва ўсіх галінах сельскай гаспадаркі, пераводзе саўгасаў на гаспадарчы разьлік павінны зьявіцца вузлавымі і цэнтральнымі ў рабоце саўгасаў.

У ліку важнейшых вучасткаў работы партыйных і савецкіх організацый у часе ўборкі зьяўляецца правядзеньне ўборкі ў прыгарадных гаспадарках. У сучасны момант па гэтай лініі павінна ісьці самая актыўная падрыхтоўчая работа ў гарадзкіх партыйных і профсаюзных організацыях. Выключнае значэньне набываюць такія пытаньні як захаваньне, перавозка, сваячасовая ўборка гародніны. З уборкай ў прыгарадных гаспадарках неразрыўна зьвязана



ДЛЯ ЗАЎВАГ

справа палепшаньня рабочага снабжэньня.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Выканаць плян загатовак, разгарнуць колгасны гандаль

Праводзячы шырокую падрыхтоўчую работу да ўборачнай кампаніі, неабходна адначасова, не дапускаючы опортуністычнай „чарговасьці" кампаній, рыхтаваць правядзеньне важнейшай кампаніі—збожжазагатоўчай.

Уборка ўраджаю і выкананьне пляна загатовак непарыўна зьвязаны з разгортваньнем колгаснага гандлю. Добра праведзеная ўборка дасьць магчымасьць павялічыць выхад колгасаў, колгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў на рынак з сельскагаспадарчымі продуктамі. Своечасовае выкананьне пляну збожжазагатовак дасьць магчымасьць своечасова разгарнуць гандаль збожжам.

Усё гэта ў сваю чаргу непарыўна зьвязана з палепшаньнем матэрыяльна-бытавых умоў працоўных мас.

Перамогі саўгасаў і колгасаў у сельскай гаспадарцы ствараюць лепшыя магчымасьці для правядзеньня хлебазагатоўчай кампаніі і поўнага выкананьня плянаў. Рыхтуючыся і праводзячы хлебазагатоўчую кампанію, неабходна дасканальна ўлічыць дасягненьні і памылкі мінулага году з тым, каб рашуча ліквідаваць дапушчаныя памылкі і па-бальшавіцку правесьці загатоўкі.

„Галоўнай памылкай пры правядзеньні збожжазагатовак у мінулым годзе зьяўлялася тое, што пляны па раёнах і колгасах былі разьвярстаны і праводзіліся не організаваным парадкам, а мэханічна і ўраўнілаўскі, бяз уліку

ДЛЯ ЗАЎВАГ

становішча ў кожным асобным раёне і асобным колгасе".

(З пастановы аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

Праводзячы збожжазагатоўчую кампанію, нам неабходна справу арганізаваць так:

а) каб ліквідаваць ураўнілаўку, мэханічны падыход да разьмеркаваньня загатоўчых плянаў паміж колгасамі, дасканальна ўлічваючы гаспадарчае становішча, ураджайнасьць і ўсе ўмовы кожнага колгасу. Гэта абавязвае кіруючыя органы ведаць кожны колгас, сельсавет, вёску;

б) каб аднасобны сэктар і ў прыватнасьці кулацка-заможная верхавіна паўнасьцю выканалі свае загатоўчыя пляны. Неабходна рашуча змагацца з перагібамі і адміністраваньнем пры правядзеньні загатовак і цьвёрда памятаць, што перагібы ў адносі-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

нах працоўных сялян і асабліва колгасаў і колгасьнікаў граюць на руку кулацкім элемэнтам;

в) загатоўкі павінны быць арганізаваны так, каб аднаасобныя гаспадаркі здавалі збожжа дзяржаве ня менш чым суседнія колгасы. У адносінах кулацка-заможных гаспадарак, як і ў мінулым годзе захоўваецца практыка дачы сельсаветамі цьвёрдых заданьняў;

г) неабходна улічыць тое, што пры выкананьні плянаў загатовак мы будзем мець шалёнае супраціўленьне кулацка-заможніцкіх элемэнтаў правядзеньню загатовак, што кулацкія элемэнты і спэкулянты будуць імкнуцца сарваць выкананьне цэнтралізаванага пляну загатовак. Парторганізацыі павінны зламаць гэта кулацкае супраціўленьне.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Неабходна цьвёрда кіравацца наступным паказаньнем аб'яднанага пленуму.

Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б патрабуе дакладнага правядзеньня пастаноў ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 6-га мая аб разгортваньні колгаснага гандлю збожжам, пачынаючы з 15-га студзеня, пасьля поўнага выкананьня збожжазагатоўчага пляну і папярэджвае, што кулацкія элемэнты і спэкулянты будуць імкнуцца пасвойму тлумачыць і скарыстоўваць разгортваньне колгаснага гандлю для падрыву дзяржаўнага пляну збожжазагатовак. У сувязі з гэтым неабходна разгарнуць самую рашучую барацьбу са збожжавай спэкуляцыяй з самага пачатку збожжавых загатовак пад лёзунгам: *ніводнага цэнтнэра колгаснага збожжа*

ДЛЯ ЗАЎВАГ

перакупшчыку і спэку-лянту;

д) неабходна дабіцца таго, каб было наладжана абслугоўваньне збожжаздатчыкаў на прыёмачных пунктах, была арганізавана найбольш хуткая прыёмка збожжа. Неабходна рашуча зжываць факты бюракратычных адносін да збожжаздатчыкаў, правесьці сваячасова разьлік.

Пляны загатовак павінны быць абавязкова выкананы ў тэрмін. Гэтага патрабуюць інтарэсы пролетарскай дзяржавы, за гэта партыйныя і савецкія арганізацыі павінны змагацца і дабіцца перамогі.

**Масава-палітычная работа, соцспаборніцтва і ўдарніцтва—мэтод работы.** Шырока разгорнутая масавая работа, соцспаборніцтва і ўдарніцтва зьяўляюцца мэтодам работы партыйных, савецкіх і зямельна-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

колгасных арганізацый па правядзеньні ўборкі, загатовак і ўсіх астатніх гаспадарча-палітычных кампаній.

Масава-палітычную работу нам неабходна ўзьняць на значна большую вышыню, перанёсшы цэнтр яе цяжару непасрэдна ў нізавое зьвяно (галоўным чынам у колгасную брыгаду), і падпарадкаваць задачам соцыялістычнага перавыхаваньня колгасьнікаў, стварэньня сапраўды соцыялістычных адносін да працы з боку кожнага колгасьніка.

Ужо зараз-жа павінна быць шырока разгорнута масавая падрыхтоўка ўборкі (конфэрэнцыі, зьлёты, лістоўкі, плякаты, лёзунгі і да т. п.); ва ўсю гэту работу неабходна ўцягнуць усе нашыя масавыя арганізацыі.

Вялізарнасьць задач уборачнай



ДЛЯ ЗАЎВАГ

камланіі ускладае вялікую адказнасьць на вясковыя парторганізацыі, работа якіх павінна быць значна ўзмоцнена і перабудавана. Перабудова павінна пайсьці па лініі ўстанаўленьня большай конкрэтнасьці, опэратыўнасьці, устанаўленьня сапраўднай адказнасьці кожнага комуніста, комсамольца за выконваемую работу. Не камандаваць, а быць прыкладам социялістычных адносін да працы, сапраўдным організатарам мас на выкананьне задач уборкі— вось задача кожнага комуніста і комсамольца. Неабходна рашуча ўзмацніць партработу непасрэдна ў нізавым вытворчым зьвяне, дабіцца правільнай расстаноўкі партыйных сіл у саўгасах і колгасах.

На разгортваньне соцспаборніцтва і ўдарніцтва вакол выкананьня плянаў уборкі і загато-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

вак неабходна зьвярнуць асноўную ўвагу:

„Соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў розных яго формах павінна зьявіцца асноўным мэтодам выкананьня ўсіх асеньніх с.-г. работ. У кожным колгасе, брыгадзе, трактарным атрадзе, вучастку МТС і вёсцы павінна быць створана такая абстаноўка, пры якой кожны колгасьнік і рабочы, добрасумленна і акуратна выконваючы свае абавязкі, лепш працуючы, выдзяляўся-б і атрымліваў адпаведнае заахвочваньне, і—наадварот,—лодыр і прагульшчык, які зрывае выкананьне пляну работ, падпадаў-бы грамадзкаму ўзьдзеяньню з боку перадавой часткі рабочых і колгасьнікаў“ (з пастановы аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Ва ўсёй рабоце па правядзеньні ўборкі і загатовак выключныя задачы ўскладаюцца на друк, які павінен разгарнуць ужо зараз-жа шырокую падрыхтоўку да гэтых кампаній і паставіць справу так, каб паказаць прыклады ўзорнай работы, выправіць недахопы і прарывы, своечасова аб іх сыгналізаваць і папярэджваць і на гэтым мобілізоўваць масы для пасьпяховага правядзеньня ўборкі ураджаю і загатовак.

Толькі на аснове пасьлядоўнага і рашучага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі, у бязьлітаснай барацьбе з кулацтвам і яго агентурай у шэрагах партыі правымі і „левымі“ опортуністамі мы здолеем дабіцца перамог на фронце ўборкі ўраджаю.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

# Аб практычных мерапрыемствах па рэалізацыі дырэктыў ЦК і СНК аб савецкім гандлі і прадметах шырокага спажываньня

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Пытаньні разгортваньня таваразабароту паміж горадам і вёскай на базе разгортваньня савецкага і колгаснага гандлю на даным этапе маюць буйнейшае гаспадарча-палітычнае значэньне. Гэтыя пытаньні стаяць цяпер у цэнтры ўвагі партыі і ўсёй рабочай клясы. ЦК УсеКП(б) па гэтых пытаньнях даваў і дае пасьлядоўныя дырэктывы для забясьпечаньня правядзеньня практычных мерапрыемстваў: майскі (1931 г.) зварот „аб спажыўкоопэрацыі“, рашэньні кастрычніцкага пленуму аб савецкім гандлі і палепшаньні снаб-

жэньня рабочых і рад іншых рашэньняў і ўказаньняў.

Важнасьць гэтага пытаньня з усёй паўнатой вызначана ў рэзолюцыях XVII конфэрэнцыі ЎсеКП(б), якая ўказала, што „для забясьпечаньня бальшавіцкіх тэмпаў уздыму ўсяе народнае гаспадаркі і лепшага задавальненьня запатрабаваньняў шырокіх мас гораду і вёскі ў адносінах тавараў шырокага спажываньня першараднае значэньне мае разгортваньне тавараабароту. Разгортваньне тавараабароту — перш за ўсё раздробнага—і правядзеньне прынцыпу гасразьліку ва ўсёй гаспадарчай рабоце зьяўляецца важнейшым стымулам для выяўленьня вялізных і далёка яшчэ не скарыстаных унутраных рэзэрваў, якія ёсьць у нашай гаспадарцы і якія садзейнічаюць

ДЛЯ ЗАЎВАГ

паскораньню росту соцыялістычнага накапленьня, і тым самым умацоўвае матэрыяльную базу ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва. Разам з тым толькі на аснове разгортваньня таваразбароту магчыма забясьпечыць далейшае шпаркае палепшаньне снабжэньня рабочых і працоўных вёскі прамысловымі таварамі і продуктамі сельскай гаспадаркі".

Гіганцкі рост цяжкой індустрыі, буйнейшыя дасягненьні ў саўгасным і колгасным будаўніцтве стварылі ўжо базу для шпаркага разьвіцьця лёгкай прамысловасьці, якая вырабляе продукцыю шырокага спажываньня. Тав. Сталін яшчэ на XVI зьезьдзе нашай партыі адзначыў, што „зараз мы можам павярнуцца да лёгкай індустрыі і разьвіваць яе ўзмоцненымі

ДЛЯ ЗАЎВАГ

тэмпамі. Новае ў разьвіцьці нашай прамысловасьці заключаецца між іншым у тым, што мы маем зараз магчымасьць разьвіваць паскораным тэмпам і цяжкую і лёгкую індустрыю". Гэта ўжо знайшло сваё практычнае адлюстраваньне — продукцыя лёгкай прамысловасьці, якая у 1930 г. па СССР складала 7 млрд. руб., на 1932 г. намечана ў 10,2 млрд. руб. Таксама ёсьць шпаркі рост таваразабароту, які па БССР даў прыкладна такія разьмеры ў нязьменным грашовым выражэньні: у 1930 г.—287 млн. руб., у 1931 г.—390,6 млн. руб., плян на 1932 г.—546,3 млн. руб. Побач з ростам вырабу і абароту тавараў шырокага спажываньня ёсьць недахват гэтых тавараў для поўнага забясьпечаньня снабжэньня спа-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

жыўца. Гэты недахват не ад таго, што ў нас выра бляецца менш тавараў у параўнаньні з мінулым пэрыодам, наадварот, цяпер значна павялічыўся выраб і спажываньне па асноўных групах тавараў, якія далёка перавышаюць разьмеры і мінулых год і даваеннага пэрыоду (напрыклад скуранога абутку ў 1913 г. выпрацоўвалася 8 400 000 пар, у 1931 г.—76 800 000 пар). Гэты недахват ад таго, што, у сувязі з культурным ростам і ростам дабрабыту рабочых і ўсіх працоўных гораду і вёскі, у корані зьмяніліся іх патрэбнасьці, і нас ні ў якай меры ня можа задаволіць тое, што цяпер значна больш вырабляецца і спажываецца, чым калі-б там ні было ва ўсе мінулыя пэрыоды.

Новае ў рабоце гандлюючых організацый у сучасны пэрыод

## ДЛЯ ЗАЎВАГ

заключаецца ў тым, каб выкарыстаць усе вагары гандлёвага ўзьдзейнічаньня на выяўленьне і стварэньне новых таварных рэсурсаў, на максымальнае расшырэньне таваразбароту і палепшаньне снабжэньня рабочых і ўсіх працоўных.

Апошнія рашэньні партыі і ўраду аб збожжа- і мясазагатоўках, аб парадку правядзеньня гандлю колгасаў, колгасьнікаў і працоўных аднаасобных сялян і аб разгортваньні вырабу тавараў і прадметаў шырокага спажываньня прадастаўляюць і даюць магчымасьць забясьпечыць далейшае шпаркае палепшаньне снабжэньня рабочых і працоўных вёскі.

Партыя зараз з асаблівай сілай ставіць пытаньне аб колгасным гандлі, як неадымнай

часткі савецкага гандлю, якія зьяўляецца вялізарным стымулам для колгасаў, колгасьнікаў і працоўных аднаасобных сялян у справе развіцьця с.-г. вытворчасьці, павялічэньня пасеўных плошчаў і ўраджайнасьці, гадоўлі маладняку, разьвядзеньня трусоў, птушак, адкорму жывёлы і павялічэньня выхаду таварнай продукцыі, каб за кошт гэтага стварыць дадатковыя таварныя фонды для рэалізацыі ў парадку колгаснага гандлю.

Колгасны гандаль, зьяўляючыся найважнейшым фактарам уцягненьня ў тавараабарот дадатковых харчовых рэсурсаў, павялічэньня снабжэньня гораду продукцыяй с.-г. вытворчасьці і палепшаньня рабочага снабжэньня, у той самы час умацоўвае колгасы і гаспадарча і організацыйна.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Для забясьпечаньня разгортваньня колгаснага гандлю, выкліку патоку продукцыі с.-г. вытворчасьці ў горад, на савецкія базары партыя паставіла пытаньне аб неабходнасьці большага разгортваньня сустрэчнага гандлю таварамі шырокага спажываньня і прадметамі гаспадарчага і хатняга ўжытку як за лік поўнага выкананьня і перавыкананьня асноўнай праграмы выпуску гэтых тавараў і прадметаў, так і за лік дадатковага іх вырабу звыш гадовых заданьняў, з максымальным выкарыстаньнем для гэтага ўсіх мясцовых магчымасьцяй: адыходы, утыль, лепшае выкарыстаньне сыравіны і да т. п.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б даў конкрэтныя ўказаньні, на выкананьне якіх павінна быць мобілізавана ўвага ўсіх партый-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ных, савецкіх, гаспадарчых, праф-саюзных, комсамольскіх, коопэрацыйных і колгасных арганізацый і ўсіх рабочых і колгасных мас.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Разгортваньне вырабу прадметаў шырокага спажываньня

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б абавязаў усе вытворчыя прадпрыемствы БССР поўнасьцю выканаць зацьверджаную бюро ЦК і СНК БССР дадатковую праграму вырабу прадметаў шырокага спажываньня да канца 1932 г. (ліпень—сьнежань):

| | | |
|---|---|---|
| Па НКЛёгпраму . . . | на | 9400000 р. |
| „ НКЦяжпраму . . . | „ | 2540000 „ |
| „ прамкоопэрацыі . . | „ | 14223000 „ |
| „ НКЛеспраму . . . | „ | 1128500 „ |
| „ мясцов. прамысловасьці | „ | 1512000 „ |
| „ НКСнабу . . . . | „ | 462180 „ |
| „ інваліднай коопэрацыі | „ | 799800 „ |
| „ іншых арганізацыях | „ | 540000 „ |
| Усяго на . . | | 30.605.480 р. |

Гэта програма зьяўляецца зусім рэальнай для выкананьня, як мінімум. На мясцох выяўляюцца магчымасьці, якія перавышаюць плянавыя заданьні цэнтральных організацый. У Воршы прамкоопэрацыя высунула сустрэчны плян у 333000 руб. на 4 месяцы замест заданьня ў 270000 руб. на 7 месяцаў за лік мясцовай сыравіны і адыходаў. Намечана выраблять самыя рознастайныя прадметы шырокага спажываньня, якіх не хапае на рынку: сурогатны абутак, шорныя вырабы, коўдры, швэйныя вырабы, мэталятавары, валёнкі, мэбля, бондарныя вырабы і коламазь. Таксама высунула сустрэчны плян прамкоопэрацыя ў Бабруйску ў 261200 руб. замест заданьня ў 187000 руб. і разгарнула выраб: мэблі, ситаў, рашотаў, дуг, бондарных выра-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

баў, лыжак. У Рэчыцы прамкооперацыя выпусьціла звыш пляну на 270000 руб. гамакоў. У Менску на панчошнай фабрыцы „Чырвоны тэкстыльшчык“ па ініцыятыве рабочых у другім квартале з адыходаў было выпрацавана 800 штук дзіцячых рэйтузаў.

Ёсьць рад прыкладаў і фактаў па паасобных прадпрыемствах прамысловасьці і прамкооперацыі, указваючых на наяўнасьць мясцовых рэсурсаў і іх крыніц, якія пацьвярджаюць поўную магчымасьць выкананьня і перавыкананьня дадатковых заданьняў па вырабе прадметаў шырокага спажываньня.

Асноўнымі недахопамі ў разгортваньні вырабу прадметаў шырокага спажываньня зьяўляюцца: марудласьць, непаваротлі-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

васьць, адсутнасьць конкрэтнага опэратыўнага кіраўніцтва з боку цэнтральных організацый, зьвязаных з вырабам і рэалізацыяй прадметаў шырокага спажываньне. Апошнія зусім не наладзілі яшчэ ўліку гэтага вырабу і ня ведаюць, што і дзе ў іх робіцца і што ўжо зроблена. Ня толькі не выкарыстоўваюцца мясцовыя сродкі, але таксама затрымліваецца своечасовае і поўнае выкарыстаньне прадстаўленых банкаўскіх крэдытаў. Наяўнасьць сярод некаторых работнікаў прамысловасьці шкодных тэндэнцый зьняважлівых адносін і адмовы ад вырабу „дробных" прадметаў і няўменьне выкарыстаць мясцовую сыравіну, адыходы, утыль для вырабу прадметаў шырокага спажываньня. Пляны складаліся пераважна габінэтным парадкам бяз удзелу

рабочых мас. Яшчэ да апошняга часу на мясцох ня ўсюды давезены і прапрацаваны заданьні. Няма яшчэ патрэбнай увязкі і дагаворанасьці паміж вытворчымі і коопэрацыйна снабжэнчымі организацыямі, што ў гэтай справе мае асабліва важнае значэньне, у галіне вызначэньня асортымэнту, выходзячы з магчымасьці вырабу і попыту для забясьпечаньня форсаванага вырабу і рэалізацыі.

Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б абавязаў организацыі прамысловасьці і прамкоопэрацыі сумесна з спажывецкай коопэрацыяй перагледзець увесь асортымэнт продукцыі, вырабляемай прамысловасьцю і прамкоопэрацыяй для шырокага рынку, унёсшы неадкладна патрэбныя зьмены як у бок пашырэньня патрэбнага асортымэнту, так і ў бок най-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

лепшага прыстасаваньня яго да патрэб рабочых і працоўных сялян. Вельмі марудна раскачваюцца паасобныя профсаюзныя організацыі, недастаткова мобілізавана ўвага і слаба ўцягнута ў практычную работу па прадметах шырокага спажываньня рабочая грамадзкасьць. Таксама знаходзяцца ў баку ад гэтай найважнейшай справы некаторыя шматтыражкі і насьценныя газэты. Раённыя організацыі ў сваёй большасьці недаацэньваюць яшчэ гаспадарча-політычнага значэньня разгортваньня вырабу прадметаў шырокага спажываньня і ня ўзялі яшчэ пад сваё непасрэднае кіраўніцтва і нагляд гэту важнейшую справу. Работа гэта на мясцох пакуль яшчэ прадастаўлена сама сабе і праводзіцца самацёкам.

Замест неабходнага максы-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

мальнага садзейнічаньня ў рабоце організацый, якія займаюцца вырабам прадметаў шырокага спажываньня, замест прапрацоўкі і правядзеньня разам з імі практычных мерапрыемстваў па іх выпрацоўцы, — у паасобных мясцох былі ўсякага роду перашкоды гэтым організацыям: рашэньні і прапановы мясцовых савецкіх організацый аб вызваленьні занятых прамарцелямі, якія выпрацоўваюць прадметы шырокага спажываньня, памяшканьняў без указаньня і прадастаўленьня ім іншых памяшканьняў, што выклікала тормазы ў рабоце і залішнія павышаныя расходы (Слуцак, Рагачоў, Крычаў, Жлобін); у Старобіне райкомбінат з санкцыі РВК зьняў бляшаны дах з памяшканьня прамарцелі для іншага памяшканьня; у наяўнасьці факты пераманьДЛЯ ЗАЎВАГ

ваньня рабочых прамарцеляй (Менск, Магілеў, Дуброўна).

„Пленум абавязвае партыйныя і савецкія організацыі на мясцох з усёй уважлівасьцю разгледзець патрэбы саматужных арцеляй, забясьпечыўшы ім рэальную дапамогу ў пашырэньні вырабу прадметаў шырокага спажываньня на аснове выкарыстаньня мясцовай сыравіны“ (з пастановы пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

Цэнтральны орган нашай партыі „Правда“, мобілізуючы ўвагу партыйных організацый і ўсёй рабочай клясы да пытаньняў выpабу прадметаў шырокага спажываньня, у перадавіцы ад 29-VI-32 г. зусім правільна ўказаў, што „грош цана таму гаспадарніку, які становіцца ў позу пышлівага пагарджэньня, калі гутарка ідзе аб стварэньні новых матэрыяльных вартасьцяй,



ДЛЯ ЗАЎВАГ

аб расшырэньні вырабу тавараў для спажыўца, аб выкарыстаньні ўсіх адыходаў.

Дырэктар заводу, у якога завалы на заводзкім двары, — дрэнны гаспадарнік. Комуністы, якія праходзяць каля ўтылю, каля незагружанага абсталяваньня і не дабіваюцца організацыі і павялічэньня вырабу тавараў шырокага спажываньня, — дрэнныя партыйцы. Кіраўніцтва партыйнай організацыі, якое ня здолела перамагчы зьняважлівыя адносіны да вырабу тавараў шырокага спажываньня, якое ня здолела прыцягнуць сапраўды шырокія масы да гэтай справы,—дрэннае кіраўніцтва".

Гэта характарыстыка павінна зьявіцца папярэджаньнем для ўсіх гаспадарнікаў, комуністаў, кіраўнікоў партыйных організацый, якія павінны зрабіць для

ДЛЯ ЗАЎВАГ

сябе ў сваёй рабоце адпаведныя вывады і па-бальшавіцку ўзяцца за справу вырабу прадметаў шырокага спажываньня.

Калі прадпрыемствы БССР ня ўсе яшчэ маюць дастатковы вопыт організацыі вырабу прадметаў шырокага спажываньня, апошні можна і неабходна перанесьці з прадпрыемстваў БССР, якія паказалі прыкладныя ўзоры сваёй работы (заводы „Молатава“ і „Варашылава“ ў Менску), або з прадпрыемстваў іншых рэспублік і вобласьцяй СССР. Да прыкладу, Любярэцкі завод с.-г. машынабудаваньня ўжо шырока разгарнуў выраб прадметаў шырокага спажываньня з унутрызаводзкага утылю і адыходаў. У яго вытворчую програму на 100—120 тыс. руб. у месяц уваходзіць 53 назвы прадметаў шы-

рокага спажываньня самага рознастайнага асортымэнту (трусятнікі, сякеры, граблі, вёдры, формы для хлеба, тазы, рукамыйнікі, складныя ложкі, табарэцікі, сталы, дзіцячыя цацкі, замкі і г. д.). Выраб і рэалізацыя гэтых прадметаў праводзіцца ў адпаведнасьці з патрэбнасьцю і попытам, якія былі выяўлены заводам пры аб'езьдзе колгасаў і саўгасаў, свайго раёну.

Прадпрыемствы швэйнай прамысловасьці БССР павінны ўзяць прыклад з Пензенскай швэйнай фабрыкі № 4, на якой закройшчыкі і ІТР арганізавалі утыльцэх і з кавалачкаў і адыходаў вырабляюць „шахматныя“ коўдры і галаўныя ўборы.

Скураабуткавыя прадпрыемствы павінны выкарыстаць адыходы скурсыравіны і стары абутак. Па СССР агульны кошт та-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

вараў, якія можна атрымаць са старога абутку, вызначаецца ў 77 млн. руб.

Можна таксама ў вялікіх разьмерах загатовіць і выкарыстаць консэрвавыя банкі.

Найшырэйшыя магчымасьці для вырабу прадметаў гаспадарчага ўжытку ёсьць у распараджэньні дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў БССР за лік адыходаў пераапрацаваных лясных матэрыялаў (табарэцікі, вёдры, цэбры, сьпіцы для колаў, павозкі, дзіцячыя ложкі, мэбля і інш.).

У значна большай меры павінны быць актывізаваны арганізацыі прамкоопэрацыі БССР, у вытворчую праграму якіх уваходзіць 125 назваў прадметаў шырокага спажываньня.

Справаю гонару кожнага комуніста, комсамольца, рабочага, дырэктара, профработніка, ІТР

усёй рабочай грамадзкасьці прадпрыемстваў прамысловасьці і прамкоопэрацыі павінна быць, побач з забясьпечаньнем псўнага выкананьня асноўнага прамфінпляну, організацыя утыль-цэху, шырокае разгортваньне вырабу прадметаў шырокага спажываньня, поўнае выкарыстаньне адыходаў і утылю. Іменна гэта забясьпечыць выкананьне лёзунгу нашай партыі—б о л ь ш т а в а р а ў ш ы р о к а г а с п а ж ы в а н ь н я н а с а в е ц к і р ы н а к.

**Організацыя сустрэчнага гандлю і прасоўваньне тавараў на вёску**

Для разгортваньня тавараабароту паміж горадам і вёскай вялізарнае значэньне мае сустрэчны гандаль і прасоўваньне тавараў у вёску.

Паток прамтавараў і прадметаў шырокага спажываньня ў вёску



ДЛЯ ЗАЎВАГ

праз сельспажыўтаварыствы і на савецкія рынкі праз сетку магазынаў і ларкоў усіх коопэрацыйна-гандлюючых організацый, побач з усімі мерапрыемствамі ў сувязі з колгасным гандлем, павінен у максымальнай меры садзейнічаць патоку таварнай продукцыі с.-г. вытворчасьці ў горад, на савецкія рынкі.

Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б прызнаў стан сустрэчнага гандлю і прасоўваньне тавараў на вёску зусім нездавальняючым, указаўшы на выключна слабую работу спажыўкоопэрацыі—ад Белкоопсаюзу да сельспажыўтаварыства.

Улічваючы, што спажыўкоопэрацыя зьяўляецца асноўнай таварправодзячай сыстэмай на вёсцы, неабходна зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на работу ўсіх яе зьвеньняў як у галіне сыстэматычнай праверкі і контролю, так



ДЛЯ ЗАЎВАГ

і ў галіне максымальнага садзейнічаньня іх рабоце.

Выключную ўвагу неабходна зьвярнуць на палепшаньне работы сельспажыўтаварыстваў у галіне разгортваньня імі шырокай гандлёвай дзейнасьці. Трэба дамагацца таго, каб сельспажыўтаварыства не абмяжоўвалася атрыманьнем і продажам толькі дэфіцытных тавараў, якія завозяцца з цэнтру, а разгарнула свой абарот за лік шырокага ўключэньня прадметаў вырабу мясцовай прамысловасьці, прамкоопэрацыі і саматужнай вытворчасьці і каб побач з дэфіцытнымі таварамі гандлявала мясцовымі таварамі: вядром, карытам, лямпай, шклянкаю, мэбляю, мэталятаварамі і інш. Для гэтага неабходна ўмацаваць апарат сельспажыўтаварыства за лік больш вопытных

ДЛЯ ЗАЎВАГ

работнікаў прылаўка коопэрацыйна-гандлёвых організацый гарадоў і раённых цэнтраў. Неабходна таксама дапамагчы і навучыць працаваць работнікаў сельспажыўтаварыства праз часовую пасылку лепшых вопытных работнікаў прылаўка і складаў гарадзкіх цэнтраў для работы ў паасобныя сельспажыўтаварыствы, хоць-бы на тэрмін да аднаго месяца.

Праверка выкананьня дырэктыў партыі аб прасоўваньні тавараў на вёску паказала буйнейшыя недахопы і ненормальнасьці ў рабоце коопэрацыі. Пры поўнай адсутнасьці некаторых тавараў у сельспажыўтаварыстве і ў гандлёвай сетцы на базарах, гэткія знаходзіліся ў вялікай колькасьці на базах і складах прамысловасьці і коопэрацыі. На вёску пасылаліся непатрэбныя

ДЛЯ ЗАЎВАГ

або неадпаведнага асортымэнту тавары.

У сувязі з гэтым „Пленум патрабуе ад усіх партыйных організацый наладзіць дасканалы контроль за тым, каб коопэрацыйна-гандлюючыя організацыі не завозілі на вёску нехадавыя, нядобраякасныя, непатрэбныя вёсцы тавары; рашучая барацьба павінна быць аб'яўлена ўсялякім спробам формальна выканаць дырэктывы аб завозе на вёску прамтавараў бяз уліку асортымэнту. Партыі патрэбна ня гэта, а тое, каб вёска атрымала што ёй вельмі патрэбна, а ня тое, што ўздумаецца бюрократам“ (з пастаноў пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

Несваячасова пасылаліся рахункі, што затрымлівала продаж тавараў, якія прыбываюць. Недапушчальна дрэнна пастаў-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

лен улік прасоўваньня тавараў на вёску, аб чым з усёй сілай адзначыў у сваім артыкуле сакратар ЦК УсеКП(б) т. Постышаў. У наяўнасьці факты броніяваньня і тавараабмену. Нярэдка продаж тавараў у сельспажыўтаварыствах ставіўся ў залежнасьць ад коопэраванасьці і ўнясеньня паёў.

**Арганізацыя савецкіх рынкаў і разгортваньне гандлю с.-г. продуктамі**

Рашэньні партыі, якія адносяцца да колгаснага гандлю, выклікалі вытворчы ўздым колгасных мас і ўжо адыгралі вялізарнейшую ролю ў справе разгортваньня і павялічэньня тавараабароту паміж горадам і вёскай.

На савецкіх рынках зьявіліся ў значна большай колькасьці с.-г. продукты. Зьнізіліся цэны на малочныя, мясныя і птушкапродукты, гародніну і інш. Там,

дзе рашэньні ЦК у часе веснавой сяўбы даводзіліся да колгасьніка, яны выклікалі барацьбу за перавыкананьне плянаў сяўбы. Напрыклад: колгас імя Кліма Варашылава, Гомельскага раёну, высунуў сустрэчны плян засеву з павялічэньнем на 40 проц. Колгас „Ленінец“, Копыльскага раёну, апрача павялічэньня засеўнага пляну, высунуў сустрэчны плян паставіць да 1 студзеня 1933 г. замест 100 галоў жывёлы 125. Колгас „Ясная Паляна“, таго самага раёну, па ўкомплектаваньні цялячай фэрмы замест 100 галоў намеціў 125. У Лёзьненскім раёне некаторыя колгасы перавыканалі плян па ільне на 181 проц.

Аднак побач з гэтымі станоўчымі зьявішчамі неабходна адзначыць у паасобных раёнах грубейшыя недахопы і скрыўленьні:

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ня вылучаны работнікі для кіраўніцтва практычнай работай па колгасным гандлі і нічога ня зроблена па яго разгортваньні (Уваравічы). Колгасны гандаль зводзіцца к рынку, дзе-ні-дзе нават папяровыя рашэньні прымаліся з недапушчальнай маруднасьцю. Напрыклад у пастанове Асьвейскага бюро РК КП(б)Б адзначалася неабходнасьць „у дэкадны тэрмін вывучыць (?) пытаньне аб мэтазгоднасьці адкрыцьця колгаснай крамы“.

Адміністраваньне, выключэньне з рынку прадаванай продукцыі па цьвёрдых ценах (Краснапольле); устанаўленьне рыначных цэн і іншая рэглямантацыя гандлю на рынку (Барысаў); прывоз продуктаў колгасьнікамі не на рынкі, а ў коопэрацыйныя магазыны (Менск, Віцебск, Гомель); імкненьне спаганяць падатак і



ДЛЯ ЗАЎВАГ

зборы з колгасьнікаў, якое прыпыняла продаж с.-г. продуктаў (Мазыр, Жлобін); слабая барацьба ў большасьці раёнаў з перакупшчыкамі-спэкулянтамі; факты тавараабмену ў шмат якіх раёнах—усе гэтыя і рад іншых скажэньняў прывялі ў паасобных раёнах да скарачэньня вывазу на рынкі с.-г. продуктаў і да павышэньня цэн, г. зн. затармазілі разьвіцьцё колгаснага гандлю.

Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б прапанаваў гарсаветам, РВК, органам спажывецкай коопэрацыі аказаць максымальнае практычнае садзейнічаньне колгасам у організацыі гандлю с.-г. продуктамі шляхам прадастаўленьня ім памяшканьняў для гандлю, для хаваньня нерэалізаванай часткі продуктаў, шляхам аказаньня ім непасрэднай дапамогі ў організацыі самаго гандлю.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Пленум абавязаў усе партыйныя організацыі прыняць рэальныя меры, забясьпечваючыя умацаваньне кадраў, патрэбных колгаснай сыстэме для разгортваньня колгаснага гандлю.

Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б у сваіх рашэньнях даў катэгорычныя дырэктывы аб рашучым зьнішчэньні недахопаў і скажэньняў, аб забясьпечаньні організацыі савецкіх рынкаў, разгортваньня гандлю с.-г. продуктамі, аб організацыі належнага абслугоўваньня на рынках колгасьнікаў і аднаасобных працоўных сялян, якія прыяжджаюць для продажу сваіх продуктаў.

Неабходна забясьпечыць безадкладнае правядзеньне як тых мерапрыемстваў, якія ўказаны пленумам, так і тых, якія вынікаюць і зьвязаны імі, прыстасоўна да мясцовых умоў.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

**1. Спалучэньне дзяржаўных плянавых загатовак з самазагатоўкамі і гандлем сельскагаспадарчымі продуктамі**

Аб‘яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б аддаў асаблівую ўвагу пытаньню аб спалучэньні дзяржаўных плянавых загатовак з самазагатоўкамі і гандлем сельскагаспадарчымі продуктамі.

Самазагатоўкі коопэрацыйна-гандлюючых організацый, а таксама гандаль колгасаў і колгасьнікаў і аднаасобных сялян сельскагаспадарчымі продуктамі павінны праводзіцца і яшчэ ў большай меры разгортвацца, але гэта ні ў якім выпадку не павінна весьці да таго, каб самазагатоўкі і гандаль сельскагаспадарчымі продуктамі вяліся за лік продукцыі, якая належыць здачы (продажу) дзяржаве. Толькі ворагі пролетарскай дзяржавы, толькі правыя опортуністы мо-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ґуць выступаць супроць акуратнага выкананьня цэнтралізаваных загатовак, якія патрэбны дзяржаве, па-першае, для таго, каб забясьпечыць важнейшыя пролетарскія цэнтры, армію, па-другое, каб забясьпечыць лепшае разгортваньне колгаснага гандлю.

Між тым ёсьць сыгналы аб фактах саботажу цэнтралізаваных загатовак. Плянавыя заданьні выконваюцца недапушчальна дрэнна. У радзе месц не навучыліся выкананьне пляну цэнтралізаваных загатовак спалучаць з разгортваньнем колгаснага гандлю. Разгарнуць цэнтралізаваныя загатоўкі і выканаць плян, гэта значыць перш за ўсё дабіцца, каб колгасьнік ведаў, што ён атрымлівае ад пролетарскай дзяржавы і ш т о ён абавязан гэтай дзяржаве здаць, прадаць. Гэта значыць змагацца супроць опор-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

тунiстычнага самацёку i супроць „лявацкiх“ мэтодаў адмiнiстраваньня як у выкананьнi пляну цэнтралiзаваных загатовак, так i ў колгасным гандлi. Гэта значыць аднначасова з загатоўкамi разгарнуць снабжэньне вёскi прамтаварамi i прадметамi першай патрэбы. Зьмяншаючы пляны дзяржаўных цэнтралiзаваных загатовак, зьнiжаючы абавязацельствы колгасаў i колгасьнiкаў па контрактацыйных дагаворах, дзяржава захавала ў поўнаймеры абавязацельствы, якiя яна ўзяла на сябе ў адносiнах да сельскай гаспадаркi (выканан плян разгортваньня МТС, снабжэньня вёскi складанымi сельскагаспадарчымi машынамi, рэзка павялiчваецца снабжэньне вёскi таварамi — у трэцiм квартале, прыкладна ў два разы больш чым у другiм квартале).



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Барацьба за выкананьне цэнтралізаванага пляну загатовак зьяўляецца самай важнай задачай усіх організацый. Недаацэнка, невыкананьне цэнтралізаваных загатовак могуць нанесьці вялізарную шкоду справе соцыялістычнага будаўніцтва, садзейнічаць толькі на руку кулаку, клясаваму ворагу.

Самазагатоўкі спажывецкай коопэрацыі і іншых гандлюючых організацый маюць буйнейшае значэньне. Яны зьяўляюцца адным з вагароў у руках пролетарскай дзяржавы ў барацьбе за палепшаньне рабочага снабжэньня.

На практыцы правядзеньня самазагатовак выяўлена шмат скажэньняў. Асноўнае скажэньне — гэта дапушчэньне тавара-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

абменных опэрацый як на гарадскіх рынках, так і на загатоўчых пунктах у глыбінных раёнах, наяўнасьць ажыятажу на рынках, праяўленьне нэпманскага духу, павышэньне цаны.

У пагоні за загатоўкамі ЗРК і інш. коопэрацыйныя і гандлюючыя організацыі дапусьцілі замену сустрэчнага гандлю на рынках прамтаварамі голым таваараабменам.

На пытаньне колгасьніка пра цану на які-небудзь тавар вельмі часта чуўся адказ прадаўца „не прадаем, а мяняем“. Або на пытаньне—„колькі каштуе пара панчох“, адказ быў такі: „паўтара дзесяткі яек і 20 кап.“, і рад іншых фактаў.

Самазагатоўкі трэба правільна організаваць, выкараняючы з практыкі іх правядзеньня тыя



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

скажэньні, якія мелі месца. Самазагатоўкі павінны ў першую чаргу праводзіцца ў глыбінных пунктах, таму што ня можа непасрэдна колгас, колгасьнік выконваць функцыі зьбіральніка тавараў і накіроўваць іх туды, дзе ёсьць спажывец.

У прамысловых цэнтрах, там, дзе рабочы спажывец непасрэдна выступае на рынак, самазагатоўкі, як правіла, не павінны праводзіцца. Іншая справа, калі ў глыбінным пункце загатаўляюць гародніну, яйкі і інш. продукты і потым іх прывозяць у прамысловыя цэнтры. Тут павінна быць гранічная продажная цана, якая вяла-б да зьніжэньня цэн на продукты, а не да іх павышэньня. Задача заключаецца ў тым, каб цяперашнія цэны гнаць уніз. Таму ня трэба загатаўляць на гарадзкіх рынках, а

трэба ўмець загатаўляць дзенебудзь далей, прывезьці ў прамысловы цэнтр і давіць на зьніжэньне цэн.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б прапанаваў коопэрацыйна-гандлюючым організацыям забясьпечыць разгортваньне дэцэнтралізаваных загатовак у глыбінных пунктах, на сельскіх рынках, кірмашах, зараз-жа спыніўшы самазагатоўкі на гарадзкіх рынках прамысловых гарадоў (Менск, Віцебск, Гомель, Магілеў Бабруйск, Барысаў, Рэчыца, Вορша). Партыйныя, савецкія, коопэрацыйна-гандлюючыя і колгасныя організацыі павінны забясьпечваць правільную організацыю самазагатовак і продажу с.-г. продуктаў, сваячасова і поўнасьцю выканаць плянавыя цэнтралізаваныя загатоўкі.

Як ва ўсёй рабоце ў сувязі

ДЛЯ ЗАЎВАГ

з колгасным гандлем с.-г.- продуктамі, з сустрэчным гандлем таварамі шырокага спажываньня, так і ў сувязі з загатоўкамі неабходна забясьпечыцьвыкананьне дырэктыў ЦК і СНК аб тым, каб „не дапускаць адкрыцьця магазынаў, крам прыватнымі гандлярамі і ўсякім чынам выкараняць перакупшчыкаў-спэкулянтаў, якія прабуюць нажыцца за кошт рабочых і сялян“.

Барацьба з клясавым ворагам і ўсякага роду ўхіламі ад генэральнай лініі партыі

У вялізарнейшай рабоце па разгортваньні колгаснага гандлю неабходна ўлічыць, што клясавая барацьба асабліва моцна праяўляецца і будзе праяўляцца на гэтым вучастку. Гэта барацьба вядзецца рознымі мэтодамі. Кулак і яго агентура ў партыі стараюцца і будуць усякім чынам старацца перашкодзіць справе

ДЛЯ ЗАЎВАГ

шырокага разгортваньня колгаснага гандлю.



Правыя опортуністы прабуюць перайсьці да „свабоднага“ гандлю, імкнуцца разгарнуць колгасны гандаль за лік продукцыі, якая належыць здачы (продажу) дзяржаве ў парадку выкананьня цэнтралізаваных загатовак, а таксама за лік асноўнага капіталу колгасу (рабочая жывёла, асноўнае стада малочнай фэрмы і г. д.).

Гэтыя праваопортуністычныя скажэньні лініі партыі могуць прывесьці толькі да зрыву організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. Бязьлітасная барацьба з правым опортунізмам, галоўнай небясьпекай на даным этапе, зьяўляецца прадпасылкай пасьпяховага правядзеньня лініі партыі.

Адным з галоўных праяўленьняў „лева“-опортуністычных скажэньняў лініі партыі зьяўляюцца спробы прыраўнаньня, пад выглядам абароны прынцыпаў савецкага гандлю, гандлю колгасьнікаў і працоўных сялян-аднаасобнікаў да прыватнага гандлю. Колгас зьяўляецца адным з тыпаў соцыялістычнай гаспадаркі. Даходы ад колгаснага гандлю ідуць на ўмацаваньне соцыялістычнага сэктару, у той час, як даходы прыватнага гандляра, перакупшчыка, спэкулянта ўмацоўваюць клясавага ворага. Нельга таксама параўноўваць гандаль колгасьніка, працоўнага аднаасобніка продукцыяй сваёй працы з гандлем прыватніка, перакупшчыка, які скупляе і продае продукцыю колгасьніка і працоўнага аднаасобніка. Даход ад гандлю колгасьнік і працоўны

ДЛЯ ЗАЎВАГ

аднаасобнік аддаюць на задавоненьне сваіх матэрыяльна-культурных патрэбнасьцяй, а прыватны гандляр—на сваё ўзбагачэньне, на барацьбу з колгасамі і ўладаю саветаў.

З другога боку, „левыя“ опортуністы, якія імкнуцца савецк[1] гандаль замяніць продуктаабменам, толькі тармозяць разьвіцьцё савецкага гандлю.

Рашучая барацьба павінна быць абвешчана „лявацкім“ мэтодам разгортваньня колгаснага гандлю, спробам падмяніць організацыйна - масавую работу адміністраваньнем, загадам (адміністрацыйнае рэгуляваньне цэн, рэглямантаваньне і праверка продукцыі, што прывозіцца на рынкі колгасамі і колгасьнікам, і інш.).

Неабходна ў корані спыніць усякія опортуністычныя скажэньні



ДЛЯ ЗАЎВАГ

дырэктыў партыі ў галіне колгаснага гандлю, даць самы жорсткі адпор шкодніцкай агітацыі рэштак разгромленага кулацтва. Трэба ўсе сілы сконцэнтраваць на арганізацыйна гаспадарчым умацаваньні колгасаў, на павялічэньні таварнай продукцыі сельскай гаспадаркі, на разгортваньні колгаснага гандлю, спалучыўшы яго з поўным забясьпечаньнем выкананьня пляну цэнтралізаваных загатовак. Трэба ўсе сілы кінуць на максымальнае павялічэньне вырабу прадметаў шырокага спажываньня, на разгортваньне сустрэчнага гандлю прамтаварамі спажыўкоопэрацыяй, дзяржгандлем, сампрамкоопэрацыяй і іншымі організацыямі, трэба дабівацца максымальнага павялічэньня завозу тавараў на вёску.

Пасьпяхова выращаючы гэ-

тыя задачы, мы здолеем у найкарацейшы тэрмін дабіцца вялізарных зрухаў і ў справе палепшаньня рабочага снабжэньня, і ў справе далейшага павышэньня матэрыяльнага дабрабыту ўсіх працоўных гораду і вёскі.

## ДЛЯ ЗАЎВАГ

## Аб партыйна-масавай рабоце



Чарговы аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б аддаў вельмі шмат увагі ўнутрыпартыйнай і масавай рабоце.

Устае пытаньне, чаму наша партыя надае такое вялікае значэньне ўнутрыпартыйнай і масавай рабоце? Тлумачыцца гэта наступным.

Па-першае. „Наша партыя ёсьць „асноўная кіруючая сіла ў сыстэме дыктатуры пролетарыяту" (Сталін), партыя зьяўляецца вышэйшай формай клясавага аб'яднаньня пролетарыяту. Нямысьліма ўмацаваньне дыктатуры пролетарыяту без адначасовага ўмацаваньня партыйных арганізацый, узмацненьня іх ролі як

кіруючай і накіроўваючай сілы ў сыстэме дыктатуры пролетарыяту.

Вось чаму на даным этапе, калі мы пасьпяхова завяршаем першы пяцігадовы плян і рыхтуемся да выкананьня найвялікшых сусьветна-гістарычнага значэньня задач другой пяцігодкі, неабходна ўзмацніць увагу пытаньням ўнутрыпартыйнай і масавай работы.

„Вырас аб'ём і маштаб работы нашых партыйных організацый. Узрос ахоп партыйнай і масавай работы шырокіх слаёў партыйцаў і рабочых.

Але далейшыя задачы соцыялістычнага будаўніцтва, якія стаяць перад намі, патрабуюць сёньня ад нас узьняцьця ўсёй партыйнай работы на яшчэ большую вышыню, прад'яўляюць да



ДЛЯ ЗАЎВАГ

нас і большыя патрабаваньні ў адносінах нашай работы.

Мы павінны здолець перабудаваць сваю работу і ячэек, у першую чаргу, такім чынам, каб аказацца на вышыні стаячых перад намі задач — кіраўніцтва масамі і організацыя іх вакол лёзунгаў партыі на барацьбу за іх ажыцьцяўленьне“ (Кагановіч).

**Па-другое.** Масавая растлумачальная работа зьяўляецца магутнейшай зброяй у руках нашай партыі пры правядзеньні гаспадарча-політычных мерапрыемстваў і кампаній. Апрача таго масавая работа на конкрэтным матэрыяле правядзімых кампаній, на матэрыяле выкананьня паасобных заданьняў заводамі, калгасамі, цэхамі, брыгадамі і паасобнымі рабочымі, колгасьнікамі і працоўнымі аднаасобнікамі крок

за крокам, з дня ў дзень форміруе новае сазнаньне, новага сацыялістычнага чалавека, які расьце на фабрыцы, у колгасе, у савецкай вёсцы.

Гэтыя два бакі масавай работы органічна паміж сабой зьліты. Кожная пасьпяхова выкананая ня толькі кампанія, але і паасобная работа, амаль нязначная па сваім разьмеры, дае, з аднаго боку, дадатны гаспадарчы вынік, і з другога, тут-жа, аднačасова, паказвае на часьцінку таго новага складаючагася сазнаньня, якое або стымулявала найбольш добрасумленныя адносіны да працы, найбольш мэтазгодныя спосабы, або-ж само яно выклікана гэтым процэсам работы.

Адсюль становіцца зразумелым, якую вялізарнейшую памылку робяць тыя кіраўнікі і організацыі, якія недаацэнь-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ваюць масавай работы. Стала ўжо правілам, што такая недаацэнка зусім невыпадкова, што яна параджаецца ўплывам на кіраўнікоў і паасобныя зьвеньні парторганізацый варожага нам клясавага асяродзьдзя, варожай ідэолёгіяй, што недаацэнка гэта, спачатку як-быццам няпрыкметная, у далейшым, разьвіваючыся, прыводзіць да опортуністычнай практыкі. З-за недаацэнкі адпаведнай масавай работы на практыцы вырастаюць усялякія скрыўленьні лініі партыі пры правядзеньні і адзінаначальля, і колектывізацыі, і кампаній і да т. п.

Правы опортунізм, які здае позыцыі клясаваму ворагу, атручаны няверыем у масы і посьпехі социялістычнага будаўніцтва, падмяняе масавую работу праваопортуністычным самацёкам.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Таксама „левы“ опортунізм заўсёды ня вытрымлівае ўпартай напружанай работы па мобілізацыі мас і таму скатваецца да спрошчаных адміністрацыйных прыёмаў і нават адміністрацыйнага самавольства.

Па-трэцяе. Наша партыя заваострае ўвагу на партыйна-масавай рабоце ў сучасны момант таму, што многія гарадзкія, раённыя парторганізацыі, заводзкія і вясковыя партячэйкі захапіліся бягучай адміністрацыйна-гаспадарчай работай і значна паслабілі ўнутрыпартыйную і масавую політычную работу, ці як сказана ў перадавіцы „Праўды“ ад 8 чэрвеня, што: „... за апошні пэрыод у многіх партыйных работнікаў некалькі аслабла цікавасьць да пытаньняў організа-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

цыйна-партыйнай работы, атрымалася тое, што згубілі „смак“ да гэтых пытаньняў“. У прыватнасьці парткомы Ніжагародзкага аўтозаводу, Растоўскага сельмашу, аб якіх ёсьць рашэньні ЦК УсеКП(б), і іншых заводаў прама падмянялі гаспадарчае кіраўніцтва заводаў, парушалі адзінаначальле і нормальную работу ўсяго заводзкага „трохкутніка“, груба адміністравалі і дапускалі цкаваньне гаспадарнікаў і спэцыялістаў. Падмена адміністрацыі і прафорганізацыі на заводах, у саўгасах, МТС і праўленьнях колгасаў з боку партыйных організацый наглядаецца і ў нас у БССР.

Адсутнасьць адпаведнай увагі да ўнутрыпартыйнай выхаваўчай работы прыводзіць да таго, што партыйныя сходы пра-

ходзяць суха, неактыўна, а ў цэхах і брыгадах вельмі часта ператвараюцца ў вытворчыя нарады. Многія ячэйкі і партгрупы ня маюць плянаў партыйна-масавай работы, партдзень цьвёрда ня вызначан, у партыйна-грамадзкую работу ўцягнуты далёка ня ўсе члены партыі і кандыдаты. Вельмі слаба пастаўлена праверка выкананьня партыйных абавязкаў. Партыйныя комітэты не ўдзяляюць адпаведнай увагі справе бальшавіцкага выхаваньня кандыдатаў, чым затрымліваецца іх перавод у члены партыі.

Марксысцка-ленінскае выхаваньне партыйцаў разгорнута ўсё яшчэ недастаткова. Так на швэйнай фабрыцы „Кастрычнік“ ахоплена

ДЛЯ ЗАЎВАГ

партвучобай—50 проц., на заводзе „Чырвоны Мэталіст"—47%, на абутковай фабрыцы „Лекерта" — 40 проц., на фабрыцы „X кастрычнік" і заводзе „Днепр" — 35 проц. На вёсцы справа яшчэ горш абстаіць. У дадатак да гэтага наведваньне сеткі партасьветы, як правіла, не перавышае палавіны складу школ і гурткоў, а заняткі часта зрываюцца з прычыны адсутнасьці цьвёрда замацаваных дзён вучобы, няяўкі настаўнікаў і недахвату памяшканьняў.

Адміністрацыйныя мэтоды кіраваньня пераносяцца ў радзе выпадкаў і ў галіну партыйна-масавай работы. Гэта знаходзіць свой адбітак у фактах прамога заціску самакрытыкі, у фактах, калі ячэйкі працуюць выключна ў парадку заданьняў, націску з раёну з боку ўпаўнаважаных і мала пра-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

яўляюць сваёй уласнай ініцыятывы і самадзейнасьці.

Масавая і політычная агітацыя зьяўляецца найбольш слабым вучасткам партыйна-масавай работы ў горадзе і на вёсцы. Растлумачэньне карэнных пытаньняў (рэалізацыя шасьці ўказаньняў т. Сталіна, брак, прастоі, цэны і г. д. у горадзе, організацыя сяўбы, уборкі, праполкі, працы ў колгасах, закон па с.-г. падатку, загатоўкі, колгасны гандаль і савецкія рынкі і г. д. на вёсцы). Многія партыйныя організацыі ня ўмеюць падымаць на прынцыповую вышыню, увязваць дробныя пытаньні вытворчасьці з агульнымі задачамі пролетарскай дзяржавы. Вельмі часта рабочым, колгасьнікам і працоўным аднаасобнікам прад'яўляюцца голыя патрабаваньні — „выканаць тое“,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

а такі падыход мяжуе з адміністраваньнем.

Частка комуністаў не займае авангарднай ролі ў палітычным і вытворчым жыцьці. Напрыклад, на торфазаводзе „Шлях соцыялізму“ з 46 комуністаў толькі 12 ва ўдарных брыгадах; на гуце „Кастрычнік“ з 109 комуністаў ва ўдарных брыгадах 73, на панчошнай фабрыцы „Клары Цэткін“ з 228 толькі — 97. На шмат якіх прадпрыемствах процант комуністаў, якія прымаюць удзел у соцспаборніцтве, ніжэй, чым процант беспартыйных.

Далей, расстаноўка партыйных сіл на рашаючых нізавых вытворчых зьвеньнях на заводзе, у саўгасе, колгасе прымушае хацець многа лепшага: усё яшчэ



ДЛЯ ЗАЎВАГ

дрэнна абслугоўваюцца брыгады, другія і трэція зьмены. Вельмі многа прыкладаў, калі на заводзе, у саўгасе, на нерашаючых вучастках работы партпраслойка значна вышэй, чым у рашаючых цэхах і брыгадах. Вельмі многа комуністаў працуе на другарадных работах, а не на вытворчасьці і ня ў полі (старажамі, у конторах, пры вагах і г. д.).

Нарэшце, яшчэ ня ўсюды організавана, а дзе organізавана, то ня ўзмоцнена нізавое, рашаючае зьвяно на заводзе, у саўгасе і колгасе (партгрупа, зьвенавая ячэйка). Асноўныя недахопы ў рабоце партгрупы заключаюцца ў тым, што партгрупы яшчэ ня маюць свайго тавару, ня ведаюць сваіх функцый і часта ператвараюцца ў вытворчыя нарады.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

У многіх арганізацыях не ўдзяляецца ўвага падбору і замацаваньню сакратароў ячэек, парторгаў і парторганізатараў, іх сыстэматычнай падрыхтоўцы. Адсюль вялікая цякучасьць, няўменьне працаваць. Загадчыкі оргінстраддзелу гаркомаў і райкомаў займаюцца чым хочаце, толькі не оргпартработай і не вывучэньнем жывых людзей—сакратароў ячэек, группарторгаў, парторганізатараў і партыйцаў. Партгрупа па зборцы сьвідравальных станкоў заводу імя Варашылава часам даходзіла да 10 чал., а потым скарачалася да 3 чал. На фабрыцы „Пролетарская Перамога“ группарторгам зьяўляецца кандыдат, якому сакратар ячэйкі дае характарыстыку: „Бузацёр, лятун, быў адзін раз выключаны з кандыда-

таў, а так ён здольны". Нагляддаецца шмат выпадкаў недапушчальнага сумяшчэньня — групарторг-брыгадзір, групарторг-профорганізатар і г. д.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

На прыведзеных фактах завастралі ўвагу ў сваіх выступленьнях т. Гікало — першы сакратар ЦК КП(б)Б і т. Жаброўскі ў сваім дакладзе. Прыведзеныя факты абавязваюць дабіцца рашучага пералому ў бок ажыўленьня і палепшаньня якасьці ўнутрыпартыйнага жыцьця і масавай палітычнай работы. Гэтага патрабуюць і рашэньні аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б па партмасавай рабоце, якія падымаюць на вышэйшую ступень задачы партыйнай работы.

Цэнтральнай задачай парторганізацый і ячэек зьяўляецца далейшая ўпар-

тая барацьба за выкананьне прамфінпляну, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў. Аднак неабходна весьці гэтую барацьбу ня шляхам умешваньня ў опэратыўную бягучую работу гаспадарнікаў, спэцыялістаў і праўленьняў колгасаў, а на падставе далейшага павышэньня кіруючай ролі парторганізацый, авангарднай ролі кожнага комуніста ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы, больш шырокага разгортваньня масава-палітычнай работы па мобілізацыі мас на вырашэньне чарговых гаспадарчых задач.

Тав. Кагановіч у сваёй прамове на пленуме МГК ад 14 мая чотка намеціў зьмест партыйна-масавай работы ячэек на даным этапе.

„Уся партыйна-масавая работа



ДЛЯ ЗАЎВАГ

арганізацыйная структура партячэек, жывая палітычная агітацыя, разьвіцьцё бальшавіцкай самакрытыкі і ўнутрыпартыйнай дэмакратыі і ўмацаваньне адзінаначальля на вытворчасьці павінны быць сконцэнтраваны і моцна ўвязаны ў кожны даны момант вакол тых пякучых конкрэтных пытаньняў, якія хвалююць сёньня рабочага.

Кожнай ячэйцы зараз неабходна ў партыйна-масавай рабоце і ў палітычнай агітацыі сконцэнтраваць асаблівую ўвагу на трох наступных баявых пытаньнях: растлумачэньне нашага міжнароднага становішча і ўмацаваньня абароназдольнасьці краіны; мобілізацыя мас на выкананьне шасьці ўмоў т. Сталіна; організацыя комуністаў, ударнікаў, акты-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

вістаў на выкананьне баявой задачы зараз—ліквідацыі браку і прастояў, барацьба за выкананьне прамфінпляну апошняга заключнага году пяцігодкі і тым самым пасьпяхова завяршыцьпяцігодку ў чатыры гады; змагацца за лепшую организацыю рабочага снабжэньня, за разгортваньне савецкага гандлю, мобілізуючы масы для вырашэньня гэтых задач (организацыя трусаводзтва, сьвінаводзтва, разьвядзеньне рыбы, снабжэньне гароднінай—чаму мы аддалі асабліваю ўвагу на гэтым пленуме — рабочыя гароды), у асаблівасьці растлумачваць масам значэньне апошніх рашэньняў ЦК і СНК аб збожжазагатоўках, жывёлазагатоўках і разьвіцьці колгаснага гандлю і ўсямернае павялічэньне выпуску

ДЛЯ ЗАЎВАГ

на рынак прадметаў шырокага спажываньня“ (Кагановіч).

Да ліку баявых задач, якія вызначаюць зьмест партыйна-масавай работы, адносіцца пастанова ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 6 ліпеня „аб уборачнай кампаніі 1932 г.“, якая ў цэнтры ўвагі ўсёй работы па ўборцы ставіць барацьбу са стратамі.

У адпаведнасьці з гэтымі задачамі павінна быць перабудавана і арганізацыйная структура гарадзкіх і вясковых ячэек. І паколькі ў цэху, аддзяленьні, брыгадзе вырашаецца пытаньне аб тэмпах, аб бальшавіцкай рэалізацыі прамфінпляну, правядзеньні сельскагаспадарчых кампаній тут ператвараюцца ў жыцьцё дырэктывы партыі па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колга-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

саў і праходзіць галоўны працэс перавыхаваньня мас і барацьбы пролетарскай організаванасьці і дысцыплінавасьці з дробна буржуазнай анархічнасьцю, стыхійнасьцю і ўраўнілаўкай,—патрэбна цэнтр цяжару партыйна-масавай работы перанесьці ў брыгаду. Патрэбна забясьпечыць організацыю ў брыгадах партыйных груп, а пры малой ячэйцы—вылучэньне ў брыгады парторганізатараў, каб цьвёрдым партыйным уплывам былі ахоплены ўсе брыгады.

Організацыя і ячэйка, якія не ўясьнілі, што вытворчая брыгада на прадпрыемстве, у саўгасах і колгасах—самы адказны, самы баявы вучастак, на які павінны быць кінуты ўсе сілы, няздольны кіраваць па-новаму, па-бальша-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

віцку змагацца за генэральную лінію партыі, узначаліць растучы працоўны ўздым і актыўнасьць мас.

Партыйныя групы і парторганізатары павінны адыграць найвялікшую ролю ў ажыўленьні ўнутрыпартыйнай работы і ўзмацненьні палітычнай работы ў масах. Падбор устойлівага складу групоргаў і парторганізатараў і сыстэматычная іх падрыхтоўка праз курсы і інструктаваньне, наладжваньне работы партгруп зьяўляюцца аднэй з асноўных задач парткомаў і ў першую чаргу ячэек на вёсцы і цэхячэек на заводах, якія павінны быць перабудаваны паводле прынцыпу зьмен.

Неабходна вельмі ўважліва падыходзіць да вывучэньня жывых людзей і разьмеркаваньня партыйных абавязкаў, асабліва сярод

ДЛЯ ЗАЎВАГ

кандыдатаў партыі, дасканала пры гэтым улічваючы ўзровень разьвіцьця і здольнасьці кожнага таварыша і штодзенна дапамагаючы яму ў выкананьні партыйных заданьняў. На сходах партгруп, цэхавых ячэек і парткомаў трэба сыстэматычна заслухоўваць даклады паасобных комуністаў аб выкананьні імі партабавязкаў і іх ролі ў вытворчым і палітычным жыцьці прадпрыемства, колгасу і г. д.

Роля партыйных сходаў (партдня) павінна быць павышана. На партыйных сходах трэба абмяркоўваць ня толькі важнейшыя гаспадарчыя пытаньні, але і пытаньні агульнапалітычнага, міжнароднага і ўнутрыпартыйнага жыцьця. Трэба імкнуцца падымаць абмеркаваньне практычных конкрэтных пытаньняў на вялікую палітычную вышыню,



ДЛЯ ЗАЎВАГ

увязваючы конкрэтныя факты з жыцьця свайго прадпрыемства, саўгасу, колгасу, вёскі з усёй гіганцкай работай па будаўніцтве соцыялізму, з пэрспэктывамі і задачамі пролетарскай рэволюцыі, паказваючы, якое значэньне для перамогі соцыялізму мае бесьперабойная работа данага заводу, саўгасу, колгасу, брыгады і гэтым самым павышаючы выхаваўчае і політычнае значэньне партдня. З гэтага пункту гледжаньня парт. органы павінны ўважліва падрыхтоўваць партсходы (падрыхтоўка матэрыялаў, дакладаў, парадку дня, своечасовае паведамленьне).

Уся ўнутрыпартыйная работа павінна садзейнічаць марксысцка-ленінскаму выхаваньню партыйных мас і павышэньню іх ідэйна-політычнага ўз-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

роўню. Неабходна пры гэтым арганізаваць партыйную і тэхнічную вучобу непасрэдна ў брыгадах ці зьвеньнях, забясьпечыўшы такім чынам поўны ахоп марксысцка-ленінскім выхаваньнем членаў і кандыдатаў партыі і шырокае прыцягненьне беспартыйнага актыву.

Ня менш важная задача, якая стаіць перад партыйнымі арганізацыямі, гэта—паставіць на адпаведную вышыню масавую палітычную агітацыю, улічваючы пры гэтым культурна-палітычны ўзровень і запатрабаваньні розных слаёў рабочых і колгасьнікаў, і прагоўных аднаасобнікаў На кожным радпрыемстве неабходна з гэтай мэтай арганізаваць агітколектывы, а асаблівая ўвага па-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

вінна быць зьвернута падрыхтоўцы і правядзеньню масавых рабочых сходаў і мітынгаў (агульназаводзкіх, цэхавых, вучастковых, брыгадных), на якіх побач з абмеркаваньнем бягучых вытворчых пытаньняў ставіць і пытаньні агульнапалітычнага дзяржаўнага значэньня. Масавую палітычную работу неабходна разгарнуць у чырвоных кутках, у часе перапынкаў на абед, у чакальнях, у пакоях для курэньня і г. д., а таксама па-за прадпрыемствам—у клюбах, летніх пляцоўках, агульных памяшканьнях, рабочых пасёлках і г. д., прымацоўваючы да адпаведных відаў работы спэцыяльных арганізатараў, агітатараў і пропагандыстаў. Асабліва шырока трэба разгарнуць работу сярод новых кадраў рабочых, зьвязаных з вёскай, уз-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

мацніць кіраўніцтва профэсіянальнымі, комсамольскімі і рознымі грамадзкімі організацыямі.

Пры разгортваньні масавай работы на вёсцы неабходна, апрача ажыўленьня работы чырвоных куткоў, хат-чытален, як мага шырэй ужываць рухомыя паходныя формы—лятучыя сходы, гутаркі, вытворчыя нарады, агітпавозкі, палаткі, кіно і радыёперасоўкі, агітацыйныя і мастацкія брыгады, кнігаоства, чыткі газэт і популярнай літаратуры і другія мерапрыемствы, разьлічаныя на свабодны ад работы час (перапынак на абед, зьмена, вечар). Асабліва трэба зьвярнуць увагу на антырэлігійную работу, увязваючы яе з вытворчымі задачамі, г. зн. з барацьбой за выхад у поле на работу у сьвяточныя дні, якія ў часе веснавой сяўбы адымаюць да 10 каштоў-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ных дзён і ня менш у часе уборачнай кампаніі.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Выключная ўвага павінна быць удзелена разгортваньню масава-палітычнай і культурнай работы сярод жанчын, бо на гэтым адказьнейшым вучастку мы маем яўна нездавальняючае становішча. Вялікае значэньне ў павышэньні гаспадарча-палітычнай актыўнасьці работніц і колгасьніц мае перабудова масавай работы сярод жанчын, прымяненьне такіх мэтодаў работы, як паходы, зьлёты, жаночыя ўдарныя брыгады, жаночыя вытворчыя нарады і г. д.

Важнейшай умовай пасьпяховага выкананьня вытворчых пляну, разгортваньня організацыйна-масавай работы сярод колгасьнікаў і папаўненьня радоў партыі зьяўляецца выкананьне дырэктыў ЦК аб рабоце з колгасным актывам. Партыйная

ячэйка, партгрупа і парторганізатар павінны systэматычна праводзіць нарады з колгасным актывам па пытаньнях арганізацыі працы ў брыгадзе, выкананьня пляну сяўбы, апрацоўкі, уборкі, загатовак і г. д., апіраючыся на яго ва ўсёй сваёй рабоце. Разам з гэтым трэба перамагчы „дзіцячыя хваробы“ соцспаборніцтва на вёсцы (адсутнасьць штодзеннага клопату аб ім, адсутнасьць дапамогі і ўліку, зьневажальныя адносіны да прэміяваньня і культурна-бытавага абслугоўваньня ўдарнікаў).

Вось у асноўным тыя пытаньні, на якіх концэнтруюць увагу парторганізацый рашэньні пленуму ЦК КП(б)Б, выступленьні т. Гікало і даклад т. Жаброўскага.

Партыйныя арганізацыі павінны зараз, закасаўшы рукавы, працаваць над тым, каб узьняць

партыйна - масавую работу на больш высокую ступень, вядучы рашучую барацьбу з опортунізмам, асабліва з правым ухілам як галоўнай небясьпекай на даным этапе.

Трэба па-бальшавіцку ўзяцца за палепшаньне партыйнай работы ва ўсіх яе зьвеньнях, павярнуць усе галіны партыйнага кіраўніцтва тварам да конкрэтнай дапамогі ячэйцы, партгрупе і партыйнаму організатару, кіраваць на падставе жывых мэтодаў работы, жывой сувязі з людзьмі. Гэта яшчэ больш згуртуе партыйныя масы навакол ЦК КП(б)Б, навакол генэральнай лініі партыі, навакол ЦК УсеКП(б) на чале з т. Сталіным.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

